Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4821) 29 мая 2015 г.

## Пункціірам

✔ На фінансаванне расходаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ў 2015 годзе з рэспубліканскага бюджэту за кошт сродкаў рэзервовага фонду Кіраўніка дзяржавы выдзелена 6 млрд руб. Рашэннем савета фонду заахвочана 89 навучэнцаў, студэнтаў і маладых спецыялістаў.

✔ Учора ўрачыста адкрыўся VI Міжнародны кангрэс беларусістаў — найбуйнейшы навуковы форум па пытаннях беларусазнаўства. Падчас кангрэса будзе працаваць «круглы стол» «Францыск Скарына і яго час» па праблематыцы вывучэння беларускага кнігадрукавання ў XVI — XVII стст. Акрамя навукоўцаў з Беларусі, на форуме выступяць вучоныя з Вялікабрытаніі, Германіі, Канады, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны ды іншых краін.

✔ Фартэпіянны канцэрт айчыннага піяніста Сяргея Смірнова адбудзецца ў межах Дзён беларускай культуры ў Пасольстве Беларусі ў Францыі. У верасні ў штаб-кватэры ЮНЕСКА пройдзе чарговы канцэрт, прысвечаны 250-годдзю з дня нараджэння М. К. Агінскага.

✔ За вялікі асабісты ўклад у развіццё літаратуры і навукі, умацаванне літаратурных і навуковых сувязяў паміж Беларуссю і Расіяй пісьменнікі і навукоўцы Мікалай Чаргінец і Валерый Чарапіца абраны сапраўднымі членамі, а Міхась Пазнякоў — членам-карэспандэнтам Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў (г. Санкт-Пецярбург). Старшынёю беларускага аддзялення Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў абраны М. Чаргінец, акадэмікам-сакратаром — М. Пазнякоў.

✔ XIII свята мастацтваў «Мірскі замак — 2015» адбудзецца заўтра і будзе прысвечана 70-годдзю Вялікай Перамогі. Сёлета рэспубліканская грамадска-культурная акцыя праходзіць пад дэвізам «Мы, беларусы, мірныя людзі». Па традыцыі галоўны госць і ўдзельнік свята — Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

✔ Адкрытае рэгіянальнае свята народнай творчасці «Аўгустоўскі канал запрашае сяброў» пройдзе 31 мая на шлюзе Дамброўка і па традыцыі запачаткуе рэкрэацыйны сезон. Для гродзенцаў і турыстаў арганізатары падрыхтавалі разнастайную праграму, разлічаную на ўвесь дзень: канцэрты, гульні для дарослых і дзяцей, конкурсы, тэатралізаваныя пастаноўкі.

✔ 1 чэрвеня ў межах праекта Беларускага дзіцячага фонду «Першая афіша» ў Музеі гісторыі горада Мінска адкрыецца першая персанальная выстаўка «Мой свет — мая мара» стыпендыята Беларускага дзіцячага фонду Кацярыны Віткоўскай. Экспазіцыя прымеркавана да Міжнароднага дня абароны дзяцей.

ISSN 0024-4686



# Не ляці, страла...



Фота Марыны Весялухі

*Удзельніцы аўтэнтычнага фальклорнага гурта «Стаўбунскія вячоркі» падчас абраду ваджэння і пахавання стралы.*

**Унікальны абрад ваджэння і пахавання стралы прайшоў у некаторых вёсках Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. Гэтая святочная дзея адбываецца на Ушэсце, праз 40 дзён пасля Вялікадня, з мэтай засцерагання вёскі ад маланкі і абароны новага ўраджаю. Мясцовыя вераць, што калі добра «павадзіць стралу», паспяваць песні, то неба можа «абваліцца дажджом», а калі добра «пакачацца» па жытнёвым полі, ураджай будзе вельмі багатым.**

Магчыма, гэта зусім і не паве́р'е, бо даследчыкі традыцыйнай культуры беларусаў, што ўжо шмат гадоў удзельнічаюць у свяце, прыгадваюць: калі «стрэлы» збіралі многа жанчын, якія спявалі і вадзілі карагоды, то энергетычны напал быў настолькі моцным, што нават неба не вытрымлівала і абрыналася вялікім дажджом. Сёлетні абрад, які прайшоў у вёсцы Стаўбун на Веткаўшчыне, не быў рэкордным па колькасці ўдзельнікаў, але даў надзею на тое, што «Ваджэнне і пахаванне стралы» будзе жыць і ў будучыні: у ім упершыню бралі ўдзел дзеці. Асноўнай рухальнай сілай стаў аўтэнтычны фальклорны гурт «Стаўбунскія вячоркі». Менавіта яны прадэманстравалі ў Ветцы фрагмент абраду крыху раней, падчас Ночы музеяў, а ў роднай вёсцы правялі свята, як тут заведзена ўжо шмат стагоддзяў.

У абрадзе ваджэння і пахавання стралы ўдзельнічаюць толькі жанчыны. Мужчыны могуць далучацца да шэсця па вёсцы, аднак спяваць, вадзіць карагоды яны не маюць права. Менавіта жаночая энергетыка на свяце лічыцца галоўнай. Яна, як сіла Зямлі, здольная засерагаць, спрыяць росту і ўрадлівасці. Ды і ў песнях, што спяваюцца падчас «стралы», у асноўным распавядаюць сюжэты з жаночага жыцця. Гэта і песня-дыялог, у якой маленькай дзяўчынцы загадваюць загадкі, каб праверыць, ці стане яна разумнай жанчынай і добрай жонкай, і гісторыя пра тое, як маладзіца «скакала й плясала» і згубіла ключы, якія потым знайшоў «стары чорт» ды стаў яе мужам, і сумны распавед, як жонка атруціла свайго мужа...

У дзень правядзення абраду святочна апранутыя жанчыны збіраюцца ў цэнтры вёскі. Яны ідуць невялікімі групкамі, па дарозе спяваюць песні і водзяць карагоды. У месцы збору ўтвараецца агульны вялікі карагод, удзельніцы кажуць словы-заклінанні, спяваюць, потым выстройваюцца ў шэрагі — наперадзе грамады стаяць старэйшыя жанчыны — і гучным шэсцем з песнямі ідуць па вёсцы да жытнёвага поля. Тут — новая частка абраду. Песні і карагоды ў жыце, «качанне» па полі — каб набрацца сіл ад Зямлі, а таксама перадаць ёй частку ўласных жыццядайных уласцівасцей. Кожная ўдзельніца абраду павінна зрабіць у глебе невялічкую ямку і закапаць металічны прадмет як ахвяру Перуну. Таксама падчас абраду жанчыны вырываюць па дзевяць жытнёвых каласкоў. Лічыцца, што высушаныя за іконай, яны прынясуць здароўе, дабрабыт і багаты ўраджай.

Чытайце на стар. 8

# Пецярбург — Белгарад

У складзе айчыннай дэлегацыі і ў якасці спецыяльнага госця X Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон наведаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. За кнігу «Аперацыя "Кроў"» Мікалай Іванавіч узнагароджаны літаратурнай прэміяй «Прохоровское поле», якую яму ўручылі ў Белгарадзе. Пра ўражанні ад гэтых падзей старшыня СПБ распавёў карэспандэнту «ЛіМа»:

— Беларусь стала ганаровым госцем сёлетняга Кніжнага салона. Наша дэлегацыя прывезла ў Санкт-Пецярбург сотні айчынных кніг. Праграма была насычанай: «круглыя сталы», канферэнцыі, прэзентацыі... Асабісты ўдзел у форуме ўзяў губернатар Санкт-Пецярбурга Георгій Палтаўчанка.

Беларускі стэнд быў у цэнтры ўвагі: цікавіліся кнігамі сучасных айчынных пісьменнікаў, тэматычнымі выданнямі, навуковай літаратурай.

**— Мікалай Іванавіч, вы наведалі яшчэ і Белгарад…**

— ...па запрашэнні кіраўніцтва Белгародскай вобласці, у прыватнасці яе губернатара Яўгена Саўчанкі, і Саюза пісьменнікаў Расіі. Я ўзяў удзел у пленуме СП Расіі і ў сходзе сакратарыята Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Прэзентаваў там часопіс Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа», які выклікаў вялікі інтарэс. Прысутнічаў на пасяджэнні Папячыцельскага савета «Прохоровское поле», які ўзначальвае член Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расіі Мікалай Рыжкоў. Яго намеснік — губернатар Белгародскай вобласці Яўген Саўчанка. Падчас пасяджэння абмяркоўвалася пытанне выдання маштабнай кнігі пра Вялікую Айчынную вайну, 12 тамоў якой ужо пабачылі свет. Ну а дыплом лаўрэата прэміі «Прохоровское поле», звязанай з блізкімі сэрцу падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, сведчыць, што нашы расійскія калегі цікавяцца сучаснай беларускай літаратурай. Кіраўніцтва Белгарада і Белгародскай вобласці вялікую ўвагу надае Дзяржаўнаму ваенна-гістарычнаму музею-запаведніку «Прохоровское поле», што месціцца ў пасёлку Прахараўка: тут ёсць званіца, штогод ствараюцца новыя аб'екты, сёлета адкрыты танкадром. Яшчэ да 50-годдзя Вялікай Перамогі было прымеркавана адкрыццё бібліятэкі Мікалая Рыжкова, фонд якой налічвае сотні тысяч экзэмпляраў і якой я падарыў шэраг кніг беларускіх пісьменнікаў: Алеся Савіцкага, Вячаслава Бандарэнкі ды іншых.

**— Якія кантакты наладзілі ў Санкт-Пецярбургу і Белгарадзе?**

— Падчас сёлетняга Кніжнага салона прадстаўнікі нашай дэлегацыі пазнаёміліся з сербскімі і балгарскімі пісьменнікамі, дамовіліся аб правядзенні ў Мінску міжнароднай канферэнцыі. Сустрэліся з паэтам, членам Санкт-Пецярбургскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэем Антонавым, галоўным рэдактарам праваслаўнай народнай газеты «Русь Державная», сакратаром Саюза пісьменнікаў Расіі Андрэем Пячэрскім, сакратаром праўлення і старшынёй Белгародскага рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Уладзімірам Малчанавым, дырэктарам Дзяржаўнай тэлевізійнай і радыёвяшчальнай кампаніі «Белгород» Юрыем Памельнікавым, сакратаром Саюза пісьменнікаў Расіі, галоўным рэдактарам часопіса «Родная Ладога» і дырэктарам Выдавецкага дома «Родная Ладога» Андрэем Рабровым ды іншымі дзеячамі культуры.

**Яна ЯВІЧ**

# Эксклюзіў і традыцыі

Днямі завяршыў працу X Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон. Удзельнічала ў форуме і беларуская дэлегацыя, маштабна была прадстаўлена айчынная кніга. Уражаннямі з чытачамі «ЛіМа» дзеліцца дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесь Бадак.

— Такія выстаўкі цікавыя найперш тым, што прадстаўляюць кнігі самых розных выдавецтваў — і буйных, і дробных, пра якія тут, у Беларусі, фактычна нічога не ведаюць. Жанры кніг таксама розныя: ёсць і масавая літаратура, і выданні, разлічаныя на літаратурных гурманаў. Калі на ўсё гэта глядзіш — супакойваешся: літаратуры яшчэ жыць ды жыць, і хоць электронныя кнігі карыстаюцца вялікім попытам, папяровым версіям хуткае знікненне не пагражае. На жаль, вельмі мала было паэтычных зборнікаў, у асноўным сустракалася класіка гэтага жанру. Відавочна, сёння паэзія выдаецца мала. Выдаўцы прывезлі на выстаўку найперш ходавы тавар. Затое шмат было самай разнастайнай дзіцячай літаратуры. І гэта найбольш радуе, бо сведчыць пра тое, што і самі дзеці чытаюць ахвотна, і бацькі рэгулярна ім чытаюць. Хто ў дзяцінстве спазнаў радасць знаёмства з загадкавым кніжным светам, будзе знову і зноў вяртацца ў яго.

**— Алесь Мікалаевіч, як выглядаў на форуме айчынны кніжны сегмент?**

— Лічу, што беларускі стэнд выглядаў дастойна і быў цікавым. Уразіла колькасць яго наведвальнікаў, якія ахвотна цікавіліся тым, што выдаецца ў Беларусі: мастацкай і дакументальнай літаратурай, падарункавымі выданнямі і проста новымі творамі айчынных аўтараў.

**— Што прадставіла выдавецтва «Мастацкая літаратура»?**

— Шмат каго зацікавіў шыкоўна выдадзены аб'ёмны том «Язэп Драздовіч», а таксама «Блакадная кніга» Алеся Адамовіча і свайго знакамітага земляка Даніiла Граніна, які, на жаль, па стане здароўя не змог наведаць выстаўку, але мы перадалі яму экзэмпляр «Блакаднай кнігі» са словамі ўдзячнасці. Тэме вайны ўвогуле быў прысвечаны асобны дзень працы форуму, у канву якога вельмі хораша ўпісалася прэзентацыя кнігі «Аперацыя "Кроў"» Мікалая Чаргінца з удзелам аўтара. Многіх цікавілі дзіцячыя кніжкі. Карысталася попытам і літаратура пра Беларусь — у Пецярбургу жыве шмат нашых землякоў.

А яшчэ ў межах X Санкт-Пецярбургскага кніжнага салона мы ўдзельнічалі ў адкрыцці беларускага аддзела ў «Парку культуры і чытання» — гэта адна з крам найбуйнейшай кніжнай сеткі «Буквоед». Пасля разам з расійскімі і сербскімі калегамі спрычыніліся да «круглага стала» «Сучасная славянская літаратура». Адметных мерапрыемстваў было шмат.

**Арына КРАЙКО**

# Зялёныя святкі ў Літве

**У горадзе Вісагінасе, якому сёлета спаўняецца 40 гадоў, жывуць прадстаўнікі больш як чатырох дзясяткаў нацыянальнасцей. У гонар святочнай даты кіраўніцтва горада ладзіць шэраг мерапрыемстваў, якія падкрэсліваюць разнастайнасць народных культур яго насельніцтва.**

Арганізаваны фестываль веснавога цыкла, у праграме якога прадстаўлены фальклорны кампанент культуры асноўнага насельніцтва горада. Акцэнт — на Зялёных святках, калі дзяўчаты яднаюцца з прыродай і праводзяць абрад ініцыяцыі — кумлення. Гэтая архаічная дзея і дагэтуль адбываецца на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Расіі, Латвіі. Фестываль праходзіў у два дні: выступоўцы мелі магчымасць прадэманстраваць сваё выканальніцкае майстэрства непасрэдна ў Вісагінасе, а таксама ў маляўнічым куточку — Аўкштайцкім нацыянальным парку.

Цэнтр мастацтваў Вісагінаса зладзіў выдатнае свята, падчас якога кожны меў магчымасць далучыцца да традыцыйнай культуры: былі майстры саломапляцення, ганчары, спецыялісты па выцінанцы, папяровых фігурках, разьбяры па дрэве, мастакі. Музычнае напаўненне свята выдатна стварылі выступоўцы з Літвы, Латвіі, Беларусі, Украіны, Расіі, прадставіўшы свае традыцыйныя спевы і танцы-гульні, прымеркаваныя да Зялёных святак.

Дэлегацыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў была прадстаўлена постфальклорным гуртом «Страла» кафедры этналогіі і фальклору на чале з Эвелінай Шчадрынай. Дзяўчаты выканалі песні, якія запісалі ў этнаграфічных экспедыцыях пераважна ў рэгіёнах Цэнтральнай Беларусі і Усходняга Палесся. Абрад праводзіў русалкі, які аднасіцца да комплексу веснавых свят, студэнткі пераналі ад аўтэнтычнага гурта вёскі Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Акрамя традыцыйных спеваў, дзяўчаты прадэманстравалі танцы з уласнай калекцыі, якія прыйшліся даспадобы гледачам. Пад «Лысага», «Ойру», «Суботу» і, канечне, традыцыйную беларускую «Лявоніху» ў скокі пусціліся нават ганаровыя госці.

Хочацца верыць, што беларуска-літоўскія этнакультурныя сувязі надалей будуць толькі мацнець.

**Вячка КРАСУЛІН**

*Абсягі*

# Літаратуру падтрымаюць мас-медыя

Знаёмства з асобнымі стэндамі, мерапрыемствамі, якія праходзілі на чарговым Кніжным салоне ў Санкт-Пецярбургу, пераканала: кнізе без актыўнай працы па прапагандзе, піяры, кажучы сучаснай мовай, не абысціся.

Таму відавочным быў актыўны ўдзел сродкаў масавай інфармацыі. Са сваімі стэндамі тут працавалі не толькі мясцовыя выданні, але і рэдакцыі «Известий», «Литературной газеты». А «Литературка» дык і ўвогуле праводзіла льготную падпіску, з-за чаго набыла асаблівую папулярнасць. Яе стэнд шукалі і мінулагодніня наведвальнікі, якія традыцыю адзначылі і запомнілі.

Праўда, другое таксама кідалася ў вочы. Недзе «згубіліся» традыцыйныя, раней добра вядомыя літаратурна-мастацкія часопісы — «Нева», «Звезда». Ці яны не ўдзельнічалі ў салоне зусім ці, магчыма, бралі ўдзел толькі ў асобных мерапрыемствах, не маючы ўласных стэндаў.

Яшчэ адна істотная акалічнасць, якая кідалася ў вочы падчас работы Кніжнага салона ў Санкт-Пецярбургу. У павільёне і нават на вуліцы працавала шмат невялікіх выдавецтваў. Іх работа па прадстаўленні навінак была арганізавана найперш аўтарамі выдадзеных кніг. І гэта пры ўмове, што кнігі, якія старанна прапагандаваліся, мелі тыражы ў 300 — 500 экзэмпляраў і часам былі выдадзены яшчэ ў 2010 — 2013 гг. Зразумела, разыходзяцца таксама вельмі марудна. Размовы з выдаўцамі і некаторымі аўтарамі паказалі, што гэта прадукцыя з дастаткова высокай рэнтабельнасцю, таму і рэалізуецца кніга не адзін і не два гады, нягледзячы на самыя розныя інфляцыйныя і іншыя стратныя працэсы.

Прыемным назіраннем на Кніжным салоне ў Санкт-Пецярбургу стала і разуменне таго, што ва ўсе дні яго работы не спынялася ўвага тэлебачання да прэзентацый асобных кніг. Ды і на экранах, разгорнутых у розных месцах, у тым ліку на вуліцы, каля галоўнай сцэны Кніжнага салона, ішлі застаўкі, невялікія, а часам і разгорнутыя сюжэты з удзелам пісьменнікаў. Даволі часта паказвалі электронны зварот старэйшыны пісьменніцкага цэха Санкт-Пецярбурга Даніiла Граніна.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# «Нёман» цячэ ў акіян

**Равеснік Вялікай Перамогі, штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс «Нёман» рыхтуецца да свайго 70-гадовага юбілею.**

У школах, гімназіях, вышэйшых навучальных установах розных рэгіёнаў Беларусі праходзяць творчыя сустрэчы супрацоўнікаў рэдакцыі з чытачамі. Мінск і Зэльва, Магілёў і Мядзел, Віцебск і Мсціслаў — геаграфія гэтых сустрэч пашыраецца. Але галоўнае «рандэву» аўтараў і чытачоў адбываецца, вядома ж, на старонках папулярнага выдання.

Што цікавага чакае падпісчыкаў «Нёмана» ў другім паўгоддзі 2015 года?

Аматараў айчыннай прозы не пакінуць абыякавымі раманы Веры Зелянко «У грэчаскім стылі», Леаніда Левановіча «Бесядзь цячэ ў акіян», аповесці Алены Паповай «Песня блістаючай хімеры», Леаніда Чыгрына «Мяцеж», Алега Ждана «Падобны да яўрэя», Анатоля Казлова «Далонь на плячы».

Рускамоўная паэзія Беларусі на старонках часопіса будзе прадстаўлена вершамі Юрыя Мацюшкі, Ізяслава Катлярова, Лізаветы Палеес, Андрэя Скарынкіна, Марата Купрыянава ды інш. У перакладзе з беларускай «загучаць» радкі Янкі Купалы, Васіля Зуёнка, Міхася Пазнякова, Казіміра Камейшы, Мар'яна Дуксы, Фёдара Гурыновіча, Ірыны Багдановіч і г.д.

Не застануцца па-за ўвагай і аматары сусветнай літаратуры. Шмат цікавага і таямнічага адкрыюць у аповесці Джо Алекса «Скажу вам, як загінуў ён», раманах Жоржа Сіменона «Убачыць Парыж і памерці», Рэнэ Баржавеля і Аленка дэ Веера «Дамы і адзінарог», вершах Лекона дэ Ліля.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

# «Бярозка» творчая

**У сучаснай «Бярозцы» шмат цікавых і разнастайных рубрык. Літаратурныя, напрыклад.**

«Верасок: паэзія», «Верасок: проза», «Верасок: казкі школьнага ранца» — для твораў падлеткаў.

Цікавыя вершы, празаічныя замалёўкі і казкі, змешчаныя тут, уражваюць шчырасцю.

Адна з задач — пошук і выяўленне юных талентаў, дапамога ў творчым развіцці — «Вераскі» на гэта і скіраваны.

Ёсць сярод «Вераскоў» і такая адметная рубрыка, як «Верасок: заяўка на Парнас», дзе друкуюцца ўжо не маленькія замалёўкі, а апавяданні альбо навелы юных аўтараў. І яны таксама вельмі цікавыя і разнастайныя па тэматыцы.

Рэалістычны кавалачак сучаснага жыцця пад назвай «Рарытэт» Алены Марціновіч, містычны і крыху палохаючы «Прывід старога замка» Ірыны Радзіхоўскай, разважліва-настальгічны аповед пра свой радавод «Было ў бацькі тры дачкі» Васіліны Кавуновай, псіхалагічна-напружаная навела «Выродлівы хлопчык» Марыі Дзербічавай, шчырае і светлае апавяданне «Сакрэт» Надзеі Пробст... Магчыма, калісьці збярэцца з гэтых твораў зборнік апавяданняў пад назвай «Заяўка на Парнас».

Спецыяльныя «Літаратурныя старонкі» адзначаны творамі Міколы Чарняўскага, Фелікса Баторына, Міхася Пазнякова, Ніны Галіноўскай, Валерыя Гапеева, Алега Ждана і інш. У планах «Бярозкі» — пазнаёміць юных чытачоў з новымі вершамі Анатоля Зэкава і Аксаны Спрынчан, прозай Наталлі Бучынскай і Адама Глобуса... Карацей, чытайце і выпісвайце!

**Генадзь АЎЛАСЕНКА,
пісьменнік, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка»**

***Вернісаж***

# Шчырасць праз аб'ектыў

**«Няўжо гэты прадстаўнічы малады чалавек з фотаапаратам — выхаванец дома-інтэрната?», — падумала, трапіўшы на фотавыстаўку «Свет вачыма дзевяці». Экспазіцыя адкрылася 19 мая ў галерэі кінатэатра «Цэнтральны». Дзевяць юнакоў і дзяўчат з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця сталі аўтарамі маляўнічых, па-майстэрску моцных і вельмі пазітыўных калажаў з фотаздымкамі іх лепшых сяброў.**

«Мэта выстаўкі — дапамагчы таленавітым падлеткам з абмежаванымі магчымасцямі выказаць сябе ў творчасці, увасобіць самыя смелыя ідэі і мары, якія ў сценах дома-інтэрната рэалізаваць проста немагчыма. Важна, каб на прафесійным узроўні маглі чамусьці навучыцца. Яны ж сапраўды на многае здольныя! Я, напрыклад, не ўмею так фатаграфаваць!» — распавяла Вольга Дамінікевіч, адна з самых актыўных арганізатараў выстаўкі.

Мастацтву «малявання святлом» маладыя людзі вучыліся цэлы год пад пільным куратарствам фатографа Аляксандра Канатопа. Па словах Вольгі Дамінікевіч, «яны прайшлі чатыры майстар-класы, рабілі хатнія заданні, выязджалі на прыроду — напрыклад, у аграсядзібу Навагрудскага раёна, на возера Свіцязь, у Раўбічы, дзе маглі ствараць у цішыні і спакоі».

Лепшыя працы выбраны з вялізнай калекцыі здымкаў! Ідэя кожнага фотакалажа падказана жаданнем раскрыць сутнасць лепшага сябра аўтара — характар, звычкі, захапленні. Працы падпісаныя з захаваннем аўтарскай стылістыкі, без правак, што вельмі падкупляе, дазваляе глыбей адчуць думкі падлеткаў.

Выстаўка «Вачыма дзевяці» ладзіцца ў рамках акцыі «Вялікае мастацтва рукамі маленькіх людзей». Арганізатар — дабрачыннае грамадскае аб'яднанне «Свет без межаў». Першы этап акцыі быў мастацкім: падлеткі малявалі карціны пад кіраўніцтвам беларускага мастака Леаніда Гоманава. Другі этапператварыўся ў грандыёзнае музычнае шоу: выхаванцы дамоў-інтэрнатаў спявалі з зоркамі беларускай эстрады, а потым нават запісалі кампакт-дыск.

Самі падлеткі кажуць, што спачатку фотаапарат быў для іх складанай і чужой «істотай», а пасля так прыцягнуў — не адарваць! Яны вераць, што з кожным днём становяцца лепшымі, адкрываюць у сабе новыя здольнасці.

Гэтыя юныя таленты такія ж, як мы з вамі. Можа быць, больш адчувальныя і сарамлівыя, але кажуць заўсёды тое, што думаюць — без фільтраў. Мараць атрымаць адукацыю і выбраць любімую прафесію, пераадолець выпрабаванні і пайсці ў самастойнае жыццё.

Грамадскае аб'яднанне «Свет без межаў» ужо на працягу пятнаццаці гадоў апякуецца дзецьмі, якія маюць патрэбу ў падтрымцы. На рахунку аб'яднання — мноства акцый міласэрнасці і творчых праектаў. Акрамя фотавыстаўкі, важнай падзеяй стаў фінальны гала-канцэрт міжнароднага фестывалю творчасці дзяцей і маладых людзей з інваліднасцю «Мары спраўджваюцца», які прайшоў 20 мая. На адной сцэне сабраліся выхаванцы дамоў-інтэрнатаў як Беларусі, так і іншых краін. «На працягу трох дзён маладыя выступоўцы спрабуюць сябе ў самых розных відах сцэнічнай творчасці. Арганізатары нікога не пакідаюць без падарунка, але, безумоўна, усё роўна выбіраюцца лепшыя», — адзначыла Вольга Дамінікевіч.

Гран-пры фестывалю ў гэтым годзе ўпершыню дастаўся Чэрвеньскаму дому-інтэрнату. Шчаслівыя пераможцы атрымалі права ўдзелу ў міжнародным фестывалі творчасці «Кракаўскія сустрэчы» ў Польшчы.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Трымай, «Вожык», зброю!

Сёлетні юбілей Вялікай Перамогі «Вожык» адзначае і як свята асабістае: 70 гадоў таму пабачыў свет першы нумар часопіса! З франтавым мінулым выдання можна пазнаёміцца на старонках адмысловай міні-кніжкі ў сёлетнім майскім выпуску «Вожыка», дзе змешчаны асобныя літаратурныя творы, плакаты, карыкатуры з легендарнага агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Дасціпнымі і мудрымі «Міранізмамі», як заўжды, падзеліцца «спецыяліст па вырошчванні фіг» Міхась Мірановіч, а шукальнік ісцін Антон Анісовіч паспрабуе разабрацца з надзённымі праблемамі ў трапных «Антосіках». Да іх далучыцца Ніна Галіноўская з «Сакрэтам багацця», парадысты Дзмітрый Пятровіч, Ала Клемянок і Аляксандр Матошка, а таксама цэлы шэраг аўтараў-вершаскладальнікаў «Вясёлай пошты». «Упершыню ў «Вожыку» з'явяцца вершаваныя мініяцюры пісьменніцы Аліны Легастаевай, дэбют якой у чарговы раз сведчыць: распачаць сяброўства з гумарам ніколі не позна.

Побач з рэальнымі асобамі знайшлося месца ў часопісе і літаратурнаму персанажу — Васілю Цёркіну з аднайменнай паэмы Аляксандра Твардоўскага. Маналог жыццялюбівага байца, што ўмеў «жартам раны, боль і горыч прыкрываць», «запісаў слова ў слова» санкт-пецярбургскі журналіст і пісьменнік Мікалай Махнёў. Узгадае «Вожык» і вынаходніцтвы яшчэ аднаго майстра з Ленінграда — франтавога карыкатурыста Івана Харкевіча, вядомага стваральніка адмысловых ігральных карт.

Старонкі пятага нумара заквітнеюць карыкатурамі. Мастакі падкажуць, як са звычайнага тэлевізара зрабіць плоскі, у якой глухамані купляць прыгожыя сукенкі, чым лячыць надакучлівыя хваробы і якім чынам выкарыстоўваць бумеранг, дыплом і рыбацкі капялюш. Маляваны гумар прадставіць у часопісе і вядомы мастак-карыкатурыст Пётр Козіч, які гэтай вясной святкуе «круглую» дату — 65 гадоў.

Адпачывайце разам з калючым сябрам і ніколі не губляйце пачуцця гумару!

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

# Пяць нагод, каб...

Калі вы зазіралі ў «Маладосць» у першым паўгоддзі 2015 года, то збольшага ў курсе яе сёлетніх эксперыментаў і творчых пошукаў. Абяцаем, што не спынімся. А пакуль акрэслім, дзеля чаго варта падпісацца на «Маладосць» у другім паўгоддзі.

Працягнуць збіраць галерэю партрэтаў на вокладцы. Цікава пабачыць, хто будзе «тварам» наступных нумароў?

Пазнаёміцца з дэбютантамі ў прозе і паэзіі (рубрыка «Упершыню ў «Маладосці»); а таксама быць у курсе новых творчых здабыткаў ужо вядомых імён сучаснай беларускай літаратуры.

Пачытаць па-беларуску творы пісьменнікаў з розных краін у рубрыцы «Пераклады».

Назіраць за героямі рубрыкі «Выбітныя», падарожнічаць у часе разам з «Гістфактам», рабіць навуковыя адкрыцці з «Акадэміяй навук», вучыцца журналісцкаму майстэрству з «Cathedra».

Пабачыць тэматычныя нумары, змест якіх пакуль загадка нават для самой рэдакцыі... (плануем выпуск рэгіянальных нумароў (гродзенскага, брэсцкага і гомельскага), а таксама спецвыпуск, прысвечаны габрэям Беларусі.

Падпісныя індэксы:
74957 — індывідуальны
749572 — ведамасны
00731 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры
00592 — льготны для настаўнікаў

**Тамара МІНЮТКА**

## Юрка ГОЛУБ



### Сэнс

Ляжу. Пазбыўся куражу.
Ганю паганыя заганы.
А крокі даўняга дажджу
Наўмысна топчуцца на ганку.

Упрочкі кінуўся прамень.
Сышоў кудысьці
пёс калматы.
Няўжо чакаюць перамен
І навігатар, і аматар?

Дзівосна збудаваны свет:
Вакол пагоды ёсць прыгоды.
Згубіўся ў нетры грому след —
Чакай прыходу
з чвэртку года.

На шыбе шастае лісток.
Душа яго трымціць-сплывае.
Вось так імкнуцца ў вадасцёк
Ручай і кропля дажджавая.

Над дахам вечнасцю грыміць.
Заціх на лаве кот зіркаты.
Нішто істота: быццам спіць,
А вочы бляшаць
шматкрылата.

Ты на маёмасць маеш цэнз
І мроіш: вось і тут прыдамся.
Але зважай, шаноўны, сэнс —
Знайсці паэзію.
Прынамсі.

### Кран

Аб будоўлю чэша дзюбу кран.
Самавіты.
Не спяшыцца.
Ашчадны.
Бачыш, з гледзішча
дзіцячых крам:
Ён — буслоў размашысты
нашчадак.

Сам —
над долам, дахам, ручаём.
Сам —
пад рэхам, воблакам і лёсам.
Знізу вараб'і крычаць
крычом,
А праменне зверху
палілося.

За лясоў развалены паркан
Адпачыць адбеглі далягляды.
Зорку ўзнёс у неба нанач кран,
І выключна са сваёй спагады.

## Лёля БАГДАНОВІЧ



### Цвітуць сады...

Неяк неўпрыкмет пахаладала —
Так заўсёды, як цвітуць сады...
Сонейка сняданак
свой праспала,
Толькі салаўі на ўсе лады

Цішыню пяшчотна прашываюць
Гукамі чароўнай прыгажосці.
І палоніць тонкі водар мая,
І вясёлкавы будуе мосцік.

І няхай сабе пахаладала,
Ды, як бачыш, адцвітуць сады...
Сонейка у рэшце
рэшт устала.
— Добры дзень!
Хутчэй ляці сюды!

### На старонках кахання

Сустрэліся позіркі так выпадкова!
Зусім непатрэбнымі сталі нам словы.
У зоркавых згадках
блукаем да рання
Пад подых вясны
на старонках кахання.

Гадзіннік стаміўся адлічваць хвіліны.
Ды як ні круці, мы расстацца
павінны...
А рук не разняць і вачэй
не адвесці.
Заблытаўся ветрык
у воблаках дзесьці.

І гушкаў нас месяц над бездаННю соннай.
Ды час расставацца прыйшоў
усё роўна.
Ад шчасця сустрэчы свяціліся вочы.
І позіркуростані сум
не сурочыў...

### Пад сузор'ямі мар

Схаваўся месячык за хмару,
Схіліў да зоркі галаву.
А я за марай пешчу мару —
Пад іх сузор'ямі жыву.

Я з імі плачу, і кахаю,
І камнем падаю з гары,
Ды кветку папараць шукаю
Ажно да ранішняй зары.

А потым зноў —
крылатай птушкай —
Праз навальніцы, перуны!
А ноччу плачу я ў падушку
Замест таго,
каб бачыць сны.

Як толькі сонейка зазззяе —
Пяшчоты крапельку злаўлю...
Я зноў шчаслівая такая —
Кахаю!
Дыхаю!
Жыву!

### У добры час!

Дзень абяцае быць прыгожым —
Шчыруе сонца за акном.
А на душы усё ж трывожна,
Бо не адным жывём
мы днём.

Які сюрпрыз падорыць заўтра?
Чаго чакаць ад іншых дзён?
Мо турбавацца
і не варта —
Як набяжыць,
так пражывём...

Ды не даюць спакою думкі —
На тое ж ён і чалавек.
Шукае выйсця,
паратунку,
Пакуль пляце
карункі век.

Заўжды чагосці не хапае,
То нешта руніць,
то баліць.
А прыгажосць
наўкол такая —
Вясна дае жаданне жыць!

Усё пяшчотней сонца ззяе,
Спяваюць птушачкі ў адказ.
Зямля руплівых
рук чакае —
Марудзіць нельга...
У добры час!

## Вольга ШПАКЕВІЧ



***

Пакуль вясна квітнее,
Пакуль цвітуць сады,
Хмялею я, хмялею
Ад кветак маладых.

Кудлачыць вецер дрэвам
Густы зялёны чуб,
Прайсціся босай трэба,
Каб дух раллі адчуць!

А неба ў зорах яркіх,
Я знаю: не засну.
Зямля, вялікі дзякуй
За дзіўную вясну.

### Імгненне

Я забуду, што ўчора было,
А што заўтра —
не трэба і ведаць.
Адбалела, сышло, адплыло
Маё шчасце і ўсе мае беды.

Я імгненнем стараюся жыць,
Прыручаю, бы птушку,
старанна,
Але час ці ідзе, ці бяжыць —
Пакідае нязгойныя раны.

Іх надзеяй, любоўю лячу,
Па-дзіцячаму веру я ў цуды,
І галоўнае, трэба, лічу,
Быць сабою: заўсёды і ўсюды.

### Людзі і дрэвы

Засмучацца, напэўна, не трэба,
Што спагадлівых мала вачэй.
Людзі нечым падобны да дрэваў,
Толькі дрэвы намнога вышэй.

І карэнне, і кроны, і песні...
Што ні дрэва — паўтору няма.
Іх убор малахітавы весні,
Белы вэлюм падорыць зіма.

І збягаю я ў сад, калі дрэнна,
Калі крыўда за сэрца бярэ...
Людзі вельмі падобны да дрэваў,
Толькі дрэвы — намнога дабрэй.

***

Паэзія — мроя ці ява,
Жыццё або казка-мана?
Яна мае царскае права
Паэтавы лёс памяняць.

Як пані, пакажа капрызы:
То птушкай спявае вясной,
То знойдзеш няўлоўныя рысы
У сонцы ці ў кроплі ляснов.

Мяняе аблічча старанна,
У пошуках траціш гады...
Паэзія — вечная тайна.
Хай тайнаю будзе заўжды!

***

У сукенцы агніста-чырвонай
І з прычоскай — русалкі накшталт —
Я прыйду на спатканне сягоння,
Асмялела цяпер не на жарт.

Раскажу, як чакала сустрэчы,
Слоў пяшчотных табе падбяру,
Як сумуюць і вусны, і плечы
Без гарачых і вуснаў, і рук.

Што мне сціпласць, і гонар жаночы,
І пристойнасці нудны закон,
Калі вочы ўзіраюцца ў вочы
І нічога, нікога вакол?

Раствярылася дзённая просінь,
Надвячорак прымерыў смугу,
Толькі вось ці спаткацца запросіш,
Дачакацца ніяк не магу.



Фота Кастуся Дробава

## Тамара БУНТА

# Чужое гора



У сем гадоў я пайшла ў школу. Напярэдадні праходзіла медыцынскі агляд, і цётачка ў белым халаце змерыла мой рост, вагу, праверыла горла, вушы, а потым, загадаўшы прыкрыць далонню адно вока, спытала:

— Якая гэта літара? — і тыцнула кіёчкам у табліцу.

— Баранка! — упэўнена адказала я.

— Правільна,— усміхнулася лекарка і пераглянулася з маёй мамай.

— А гэта якая літара?

— Загагулька! — не менш упэўнена прамовіла я.

— Малайчына! Памяняем вока... Ну, а гэта якая?..

— Граблі!

— Цудоўна! — зарагатала лекарка. — Здароўе ў парадку. Можна ісці ў школу і вучыць літары.

Так я стала вучаніцай.

Першы дзень у школе мне запомніўся дзвюма падзеямі: у нашым класе апынулася дзяўчынка з імем, якога раней я ніколі не чула, — Роза, мяне надта ўразіла такое прыгожае імя. І другое: я нарэшце ўбачыла Гусака.

Гусак быў дырэктарам нашай школы. Наогул, прозвішча ў яго было Лебедзь, але школьнікі прыляпілі яму мянушку Гусак. Мае брат ды сястра і ўсе суседскія дзеці клікалі яго толькі так.

З Гусаком у нашай сям'і выйшла такая гісторыя. Мой брат у маленстве быў страшэнным гарэзам, і аднойчы за нейкія ягоныя свавольствы нашых бацькоў выклікалі да дырэктара. Але бацька працаваў цэлы дзень, маці таксама, таму ісці давялося нашай старэнькай бабульцы.

Прыйшла бабуля да дырэктара, і ён пачаў расказваць, які ў яе непаслухмяны ўнук расце, ды як ён у школе хуліганіць, ды хто з яго вырасце, а наша бабулька, бедная, ад страху ўся калоціцца, галавою ківае ды прыгаворвае:

— Добра, таварыш Гусак, не хвалюйцеся, таварыш Гусак, бацька з ім разбярэцца, таварыш Гусак...

Тут дырэктар строга кашлянуў і прамовіў:

— Прабачце, але маё прозвішча не Гусак, а Лебедзь!

Тут наша бабуля перапужалася яшчэ больш:

— Ды што вы кажаце!.. Ай-яй-яй! А наш Сашка дома ўсё: Гусак ды Гусак, Гусак ды Гусак! Ну, пачакай, паршывец!..

Адным словам, атрымаў Сашка ад бацькі і за свавольствы, і за Гусака!

Але ён быў не з тых, каму паслухмянства надоўга хапала.

Неяк задалі нам запісаць дома ў сшытак пяць прыказак пра хатніх птушак і жывёл. Чатыры прыказкі напісала, а пятую — ніяк.

Тут падыходзіць да мяне брат і з хітрынкамі ў вачах гаворыць:

— Во, я прыгадаў: «Не быць ніколі шэраму гусаку белым лебедзем».

Варухнулася ў маёй душы нейкае падазрэнне, але надта самой думаць не хацелася. Запісала хуценька гэтую прыказку ў сшытак ды гуляць пабегла.

Праз дзень раздае настаўніца сшыткі і раптам пытае мяне:

— Томачка, а з якой кніжкі ты выпісала прыказку пра гусака і лебедзя?

— Ды ні з якой, мне яе брат падказаў.

— А, ну тады зразумела!..

Пашанцавала Сашку, што настаўніца наша была добрая і разумная, а то не прамінуў бы ён новых непрыемнасцей.

Аднойчы, калі я вучылася ўжо ў чацвёртым класе, наша настаўніца затрымалася на першы ўрок. Ніколі раней падобнага не здаралася, таму мы весяліліся як маглі: хлопчыкі крычалі і бегалі па партах за дзяўчынкамі, тузалі іх за касу ці «хвосцік», дзяўчаткі пішчалі і ўхіляліся, намагаючыся трэснуць хлопчыкаў кніжкай ці лінейкай.

Раптам дзверы адчыніліся, і ў класны пакой увайшла настаўніца.

— Дзеці, сёння ў нас урокаў не будзе, — аб'явіла яна. — У нашага дырэктара загінуў сын.

— Ура! — закрычалі мы. — Урокаў не будзе! Урокаў не будзе!..

— Ціха! — настаўніца ляснула далонню па стале. — Як вам не сорамна?!. У нашага дырэктара вялікае гора: яго сын трапіў пад машыну. А вы весяліцеся!..

Мы збянтэжана замаўчалі і ціха, амаль на дыбачках, выйшлі з класа. Але, апынуўшыся за школьнымі варотамі, радаснай гурбой панесліся па завулку:

— Ура! Не вучымся! А ў нас сёння ўрокаў не будзе!.. Ура!..

У дзяцінстве гора заўсёды бывае чужым. Толькі ў чужых сем'ях людзі паміраюць. Я і не думала, што можа памерці хто-небудзь з маіх родных, нават старэнькая бабуля. Не, мая бабуля яшчэ сто гадоў пражыве і яшчэ сто гадоў будзе маёй бабуляй!.. Тата і мама тым больш будуць жыць доўга. А я?.. А я наогул ніколі не памру!

Пахаванне дзе-небудзь на суседняй вуліцы было для нас, малых, вялікай падзеяй. Пачуўшы гукі пахавальнага марша, мы з усіх ног несліся, каб паглядзець на нябожчыка. Даганялі і пераганялі жалобную працэсію, залазілі на плот ці на дрэвы, каб са страхам і заміраннем сэрца зазірнуць у труну, якую везлі на машыне, паглядзець, хто там ляжыць — цётачка ці дзядзька, падлічвалі, колькі вянкоў нясуць перад машынай, назіралі, хто як плача... Потым абмяркоўвалі гэта, а ўвечары ахвотна пераказвалі ўсё бацькам і суседзям, якія толькі-толькі прыйшлі з працы... Дзякуй богу, у дзяцінстве лёс пазбавіў мяне жаху страты блізкага ці нават проста добра знаёмага чалавека...

Я крычала і радавалася нечаканай свабодзе не менш за іншых. Ды і, прызнацца, не вельмі спачувала дырэктару, бо, як і многія вучні, не любіла яго. Ён быў строгі і прыдзірлівы і вельмі сачыў за школьнай дысцыплінай. Калі на перапынку дырэктар моўчкі ішоў па калідоры, вірлівае жыццё там адразу заціхала. Высокі, худы, у акулярах, дырэктар толькі круціў ва ўсе бакі сваёй доўгай шыяй, ківаючы на нашы пужлівыя «Добры дзень!» і прыгаворваючы: «Не бегаць! Не дурэць!» З-за сваёй шыі ён быў вельмі падобны да гусака, таму яго і празвалі Гусаком. Дырэктар гэта ведаў і вельмі крыўдзіўся. Таму самыя непаслухмяныя хлопчыкі, у тым ліку і мой брат, заўсёды крэмзалі крэйдай ці чарнілам на сцяне або падаконніку: «ГУСАК», — прыбіральшчыцы потым старанна выціралі абразлівыя надпісы. Гэта ўжо потым, шмат гадоў апасля, калі мы сталі дарослымі, зразумелі, што наш дырэктар быў зусім не благі, а проста вельмі патрабавальны чалавек і намагаўся падтрымліваць у школе дысцыпліну і парадак. А тады, у маленстве, мы яго баяліся і не надта любілі, і я неаднойчы бачыла ў школе, на парце, падаконніку ці сцяне накрэмзанае «ГУСАК».

Акрамя таго, у мяне была і ўласная крыўда на дырэктара. Дні тры таму, папрасіўшыся выйсці з класа, я выпадкова ўбачыла, як Гусак ля гардэроба сварыўся на прыбіральшчыцу бабу Вольгу за тое, што яна спазнілася са званком на перапынак. Пачырванеўшы ад злосці, ён пырскаў слінаю, а баба Вольга моўчкі стаяла перад ім у сваёй чорнай плюшаўцы, сутаргава сціскаючы пальцы рук, цяклі слёзы. Баба Вольга была вельмі добрая і спагадлівая да нас, дзяцей, таму мы ўсе яе любілі.

«Буржуй!» — абурылася я ў душы. На той час гэтае слова было для мяне самай страшнай абразай: недарма ж я насіла тады на шыі піянерскі гальштук. — «Буржуй! Пан!.. Гусак!!! Ну, пачакай жа!..»

Я вярнулася ў клас і да канца ўрока не слухала настаўніцу каля дошкі, а абдумвала план страшнай помсты Гусаку за няшчасную бабу Вольгу. І план выспеў. Я вырашыла ўчыніць тое, на што дагэтуль не адважыўся ніводны неслух у нашай школе, нават мой брат Сашка. Вырашыла напісаць слова «ГУСАК» на дзвярах дырэктарскага кабінета. А яшчэ лепей — надрапаць ці выразаць сцізорыкам. У Сашкі быў.

Тры дні думала, як лепш гэта зрабіць. Дрэнна спала, уяўляючы сябе юнай партызанкай, якой трэба выканаць важнае заданне. Я пракручвала ў галаве сцэну, як буду выконваць заданне, і сэрца загадзя сціскалася ад страху. У рэшце рэшт вырашыла, што не здолею выразаць слова «ГУСАК» — мне не хопіць ні часу, ні ўмення: раней ніколі нічога ножыкам не выразала. Таму «ГУСАК» проста напішу каляровай крэйдай на белых дзвярах...

Перад «важнай аперацыяй» я кепска спала і некалькі разоў прачыналася ад трывожнага прадчування: убачаць, зловяць, выключаць з піянераў і са школы!.. Я ўяўляла сабе, як чырвоны, бы рак, дырэктар крычыць і пырскае на мяне слінаю, як тады на бабу Вольгу... Як пашле мяне дадому па бацькоў... Як разлуецца тата... Як мяне паставяць перад усёй школай на лінейцы... І зноў правальвалася ў трывожны сон...

Раніцай падхапілася раней звычайнага і ў школу прыбегла яшчэ да дзяжурных старшакласнікаў. Стараючыся ступаць як мага цішэй у гулкім пустым калідоры, я дайшла да свайго класа, які, дарэчы, быў якраз побач з дырэктарскім кабінетам. Паставіўшы партфель на падаконнік, дастала з яго падручнік па матэматыцы і быццам бы стала паўтараць правілы. Адной рукой трымала кніжку, а другой сціскала крэйду ў кішэні школьнага фартуха.

Наўкол не было нікагусенькі, але мне здавалася, што за мной назіраюць сотні вачэй. Я ніяк не магла адважыцца... «Раз, два, тры!..» — скамандавала я сама сабе, дастала з кішэні ружовую крэйду і хуценька накрэмзала на белых дзвярах: «ГУСАК». Потым пайшла ў клас, крэйду паклала на маленькую палічку ля дошкі, выцерла насоўкай рукі і села за сваю парту — цяпер ужо па-сапраўднаму паўтараць правілы. Я адчувала сябе гераіняй-партызанкай, якая наклеіла лістоўку пад носам у фашыстаў.

А праз дваццаць хвілін прыйшла настаўніца і сказала, што мы не вучымся, бо ў дырэктара вялікае гора...

І вось цяпер я мчала ў натоўпе сваіх аднакласнікаў і разам з усімі радасна крычала:

— Ура! Не вучымся! Сёння ўрокаў не будзе!..

Дома з парога я радасна аб'явіла бацьку, які распальваў печку:

— А мы сёння не вучымся!

— Што здарылася? — здзіўлена спытаў ён і чыркнуў запалкай.

— У нашага дырэктара пахаванне: яго сын загінуў — пад машыну папаў!..

— Ай-яй-яй! — закрычаў бацька. — У дырэктара сын загінуў!..

Тата як сядзеў перад печкай на кукішках, так і сеў прама на падлогу. Запалка дагарэла, дайшоўшы амаль да бацькоўскіх пальцаў, і згасла. Тата машынальна кінуў яе ў грубку.

Я здзіўлена ўтаропілася ў бацьку: чаму ён так усхваляваўся, ён жа не ведаў дырэктарскага сына і нават ніколі ў вочы не бачыў.

— Ай-яй-яй! Якое гора! Якое страшнае гора! — паўтараў мой бацька, у роспачы ківаючы галавою. Твар яго збялеў.

— Тата, чаму ты так перапужаўся? — спытала я наіўна.

— Дачушка, ты толькі ўяві сабе: у чалавека сын загінуў! Уяві сабе, што ў яго цяпер на сэрцы!.. Як яму цяжка, як ён пакутуе, плача!.. А каб гэта з нашым Сашкам здарылася?!.

Я здзівілася, што бацька назваў дырэктара чалавекам. Я ніколі не думала пра такое. Лічыла, што дырэктар гэта... дырэктар. Што ён можа важна хадзіць па школе, камандаваць, рабіць заўвагі, нават сварыцца на дзяцей, на прыбіральшчыцу... А каб пакутаваць ды яшчэ плакаць?!.. Уявіць падобнае мне было цяжка.

Тады я падумала пра брата. Уявіць сабе нежывым і нерухомым гэтага гарэзу і неслуха, на якім, як гаварыла наша бабуля, скура гарыць, які столькі разоў мяне дражніў, падманваў і крыўдзіў, я тым больш не магла. Але сэрца маё чамусьці раптам сціснулася...

Увечар я малявала і чула, як бацька час ад часу паўтараў, скрушна ківаючы галавой:

— Якое гора!.. Якое гора!..

Наступным ранкам мы стаялі каля нашага класа і чакалі званка на ўрок. Усе абмяркоўвалі падзеі мінулага дня. Некаторыя мае аднакласнікі былі на пахаванні і цяпер ціха расказвалі падрабязнасці. Я ўважліва слухала, а сама міжволі паглядвала на дзверы дырэктарскага кабінета. Слова «ГУСАК», напісанае крэйдай, па-ранейшаму ружавела на іх. Мусіць, прыбіральшчыца не мыла сёння дырэктарскі кабінет, таму і не заўважыла гэтай абразы. Было дзіўна, што і мае аднакласнікі не заўважаюць яе. Я ж старанна адводзіла ўбок свой позірк, каб ніхто нічога не западозрыў, не «раскусіў» мяне...

Раптам усе замаўчалі: па калідоры ішоў дырэктар. Гэта быў наш дырэктар і ў той жа час не наш: ён схуднеў і пасівеў, твар яго пачарнеў і рэзка пастарэў. Заўсёды важны і ганарлівы, цяпер наш дырэктар ішоў, убраўшы галаву ў плечы. Ён выглядаў як няшчасны чалавек. «Добры дзень!.. Добры дзень!.. Здрасьце!..» — нерашуча павіталіся мы.

— Добры дзень, дзеці! — ціха адказаў дырэктар і прыпыніўся ля сваіх дзвярэй. Усярэдзіне ў мяне ўсё пахаладзела. Зараз ён павернецца да нас, спытае: «Хто гэта зрабіў?» — і я не змагу схлусіць.

Але дырэктар дастаў з кішэні ключ, адамкнуў дзверы і ўвайшоў у свой кабінет. Тут зазвінеў званок, і мае аднакласнікі гурбою кінуліся ў клас. А я зрабіла тры рашучыя крокі да дырэктарскіх дзвярэй і, паслініўшы палец, паспешліва, але старанна сцёрла абразлівае слова.

# Рахунак крытыка і тэатрала

**Год 1991. У многіх гэтая дата, упэўнены, выкліча процьму асацыяцый-успамінаў-перажыванняў... У мінуўшчыну вярнуцца нашмат прасцей, чым вандраваць у прышласць. Ці любяць людзі разважаць пра будучыню? Як калі. Але ім вярэдзіць сама магчымасць прадбачыць, прадказаць, заўчасна выявіць наканаванасць.**

«...Ці народзіцца масавая літаратура ўнутры беларускае літаратуры, ці прыжывецца пачвара ў самім рэліктавым лесе — сказаць цяжка, хоць запіс у рэкруты камерцыйнае літаратуры, здаецца, пачаўся», — разважаў «колішні» крытык Сяргей Кавалёў у «Палемічных нататках» «Пачвара ў рэліктавым лесе», надрукаваных у часопісе «Беларусь» у год распаду СССР. Такую ж кідкую назву атрымала кніга названага аўтара, выдадзеная ў 2013 годзе. Гэта зборнік артыкулаў і нататак, у які, паводле анатацыі, «увайшлі новыя тэксты, выбраныя часопісныя публікацыі мінулых гадоў, а таксама артыкулы пра тэатр».

Чытачам прапануецца трохчасткавая структура, кожны кампанент якой — «Сёння», «Учора» і «Тэатр» — у сваю чаргу складаецца з шасці асобных тэкстаў. Найбольш прэзентатыўна выглядае першы раздзел, артыкулы якога, бадай, узніклі адносна незадоўга перад выхадам зборніка. Не месца ў сціслым водгуку характарызаваць усе артыкулы, таму абмяжуемся звычайным пералікам закранутых тэм і праблем. Тут ідзе дасведчаная гаворка пра амаль легендарных «Тутэйшых», пра актуалізаваны сацыялагізм «тэорыі поля», пра гаманлівы «Бум-Бам-Літ», пра творчы набытак асобных персон — Артура Клінава, Альгерда Бахарэвіча і Сяргея Даніленкі.

Кавалёўскія тэксты вызначаюцца перадусім нейкім «літаратуразнаўчым спакоем», увагай да тэорыі, амаль пазітыўнай канкрэтнасцю і паглыбнальнай верай у аўтарскую дарэчнасць, у якіх бы формах яна ні рэалізоўвалася насамрэч. Здаецца, С. Кавалёў часам задужа мяккі і прыязны да тых, пра каго піша, проста па-прыяцельску імкнецца выклікаць прыхільнасць. Такая пазіцыя, прынамсі мне, цалкам зразумелая, асабліва ў дачыненні неардынарных навуковых штудый С. Даніленкі. Аднак, калі мне цяплее на душы ад паведамлення і амаль верыцца, што «дзіўны чалавек Альгерд Бахарэвіч» «у XXI стагоддзі з цэнтру Еўропы ўважліва (падкр. мной. — **І. З.**) чытае творы Багушэвіча, Лучыны, Купалы, Коласа, Бядулі, Гаруна», то гэта ніяк не азначае маю згоду з тым, што «аўтар раманаў «Сарока на шыбеніцы» і «Шабаны» ўважліва чытае і на дзіва далікатна каментуе (падкр. мной. — **І. З.**) прозу» шэрагу вядомых беларускіх літаратараў мінулага стагоддзя. За аргументамі далёка хадзіць не трэба, бо дастаткова няўважліва пачытаць «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча», каб пераканацца ў «далікатве», «тактоўнасці» і «карэктнасці» аўтара, які нярэдка імкнецца адшукаць уласныя дывідэнды ў бесцырымонным запраганні ў аглоблі сваіх нежывых папярэднікаў на айчынным літаратурным палетку...

Як можна было зразумець, С. Кавалёў параўнаў беларускую літаратуру з рэліктавым лесам, а мас-пап-літпрадукцыю — з пачварай, якая мусіла ў ім спачатку нарадзіцца, а затым жыць. Перафразуючы словы аднаго персанажа з савецкага псеўдарэалістычнага класічнага фільма, задамося пытаннем: «Хто можа ведаць, што заўтра будзе лічыцца прыўкрасным, а што пачварным? І добра будзе тым, у каго ўласная масавая літаратура будзе, і кепска — у каго яе ў патрэбны час не адшукаецца». «Разгублены», як і ўсе ў пачатку 1990-х, С. Кавалёў меркаваў: «пачвара наўрад ці народзіцца ў рэліктавым лесе. Яна вынішчыць яго, калі выпаўзе з джунгляў». Як на сёння і па мне, дык залішне аптымістычна-наіўна.

Размова пра зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў не выключае, а нават і павінна мець на ўвазе гаворку пра літаратуру ў цэлым. Неяк запытаўся




ў аматаркі «папулярнага чытва» пра ўражанні ад рамана Віктара Марціновіча «Сфагнум». Адказала лаканічна, што чытала даўнавата, а ў памяці застаўся толькі адзін лаянкавы выраз. Рэгулярна прапаную навучэнцам ананімна адказаць на пытанне: «Што трэба зрабіць, каб сярэднестатыстычны беларус добраахвотна ўзяўся чытаць творы сучаснай роднай літаратуры?» Адказы бываюць рознымі і пераважна песімістычнымі. Амаль ніхто не ўскладае надзей ні на сваё, ні на будучы пакаленні. Як лейтматыў гучаць прапановы аб арыгінальнай прыгожай назве і дасканалым афармленні. (У кнізе С. Кавалёва ўсё адпавядае гэтым пажаданням: і назва інтрыгоўная, і на вокладцы выкарыстана кідкая карціна Сяргея Саламаціна «Схаваная экспансія», на якой адлюстравана штосьці сярэдняе паміж спрытнай саламандрай і мімікруючым хамелеонам.) Трапляецца і такое моладзевае: каб кнігі самі хадзілі па вуліцах і цягнулі рукі да кожнага сустрэчнага, просячы іх прачытаць. Але больш за ўсё трывіяльных дэкларацый: «Аўтар павінен зацікавіць так, каб у чытача перад вачыма склаўся малюнак, каб у сэрцы засталося нешта ад прачытанага». Сумна, вядома, калі гэтае нешта, як у выпадку са «Сфагнумам», можна заключыць у адным ненарматыўным праслоўі-паўторы.

Другі раздзел «Учора» дэманструе кола зацікаўленняў Кавалёва-крытыка больш чым дзесяцігадовай даўнасці: змешчаныя тут тэксты датуюцца 1985 — 2000 гадамі. Розныя па памеры, праблематыцы, надзённасці ўзнятых пытанняў, яны і зараз ніяк не выглядаюць архаічна, дэманструюць літаратурныя сімпатыі аўтара. С. Кавалёў імкнуўся прафесійна разабрацца ў перыпетыях станаўлення біяграфічнага жанру ў дакументальна-мастацкай беларускай прозе, папулярызаваў на нашым культурным кантыненце творчасць паэткі з Беласточчыны Надзеі Артымовіч, а таксама... Відаць, дагаджаючы густам яршыстай у той час (1998) рэдакцыі «Крыніцы», С. Кавалёў нават напісаў своеасаблівы партрэт-памфлет «Чалавек з мядзведжым тварам: Іван Чыгрынаў» незадоўга перад гэтым памерлага народнага пісьменніка. І ў гэтым мне бачыцца пацвярджэнне забытай многімі ісціны, што крытык не літаратуразнаўца і мае своае права пісаць не толькі пра іншых і сваё стаўленне да іх творчасці, але і пра сябе. Яшчэ раз падкрэслю, што артыкулы другога раздзела характарызуюць эпоху мінулую, дасягненні былыя, але і праз дзесяцігоддзі яны чытаюцца цікава і застаюцца актуальнымі.

С. Кавалёў надзелены рознымі талентамі, навуковай дысцыплінай мыслення і багатым мастацкім уяўленнем. Але сёння, мне здаецца, ён найперш актыўны драматург, які жыве клопатамі пра развіццё драматургіі і беларускага тэатральнага мастацтва. Таму невыпадкова, што найбольшай эмацыянальнасцю вызначаецца раздзел заключны — «Тэатр». Ён аб'яднаў самыя розныя ў жанравых адносінах тэксты — ад агляднага артыкула да эсэізаванага караценькага «запісу з нагоды» ў фармаце «Зацемак з левай кішэні» Леаніда Галубовіча. Адпаведна, раздзел выглядае даволі эклектычна. Затое ў асобных змешчаных тут матэрыялах чытач пазнаёміцца з шчырым і адкрытым аўтарам, а не толькі з канстататарам даволі верагодных ісцін, так ці інакш звязаных з беларускім літаратурным і тэатральным жыццём. «У адрозненне ад сваіх калег, я крытыку люблю, хаця не лічу гэтую любоў абавязковай якасцю для драматурга і нікога не заклікаю да наследавання. (...) у драматургію я прыйшоў з літаратурнай крытыкі і, нават напісаўшы каля двух дзясяткаў п'ес, не кінуў пісаць навуковыя тэксты. Праўда, непасрэдна літаратурнай крытыкай — рэцэнзаваннем новых кніг, аналізам сучаснага стану літаратуры — я кінуў займацца, але ранейшы досвед прымушае мяне з павагай і разуменнем ставіцца да людзей, якія пішуць пра мае драматургічныя творы і іх тэатральнае ўвасабленне», — вось так шчодра С. Кавалёў выдаў своеасаблівую індульгенцыю, сіла якой, спадзяюся, распаўсюджваецца не толькі на даробак тэатральных крытыкаў, але і на мой сціплы водгук...

Калі верыць матэрыялам адпаведнага тома біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (1994), на зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў С. Кавалёва «Як пакахаць ружу» (1989) і «Партрэт шкла» (1991) не было надрукавана ніводнай рэцэнзіі. Для адпаведных вывадаў прывяду дынаміку з'яўлення рэцэнзій на кнігі найбольш прадуктыўнага і прызнанага крытыка Дзмітрыя Бугаёва: «Арганічнасць таленту» (1989) — 0, «Чалавечнасць» (1984) — 2, «Талент і праца» (1979) — 3, «Зброяй сатыры, зброяй праўды» (1971) — 4, «Шматграннасць» (1970) — 6. Дык вось, свой адыход з крытычнага цэху С. Кавалёў патлумачыў трыма чыста суб'ектыўнымі прычынамі: добрыя пісьменнікі сталі сябрамі і пра іх гаварыць стала няўручна, крытыкаваныя ім пісьменнікі не сталі тварыць лепш, плюс мулкае евангельскае «не судзіце...». Мне ж падаецца, што не меншае значэнне меў аб'ектыўны фактар: у сувязі з дэмакратызацыяй жыцця ў перыяд перабудовы і ростам папулярнасці публіцыстыкі цікавасць да літаратурнай крытыкі паступова згасала, бо, па Герцэну, толькі «ў народа, пазбаўленага грамадскай свабоды, літаратура — адзіная трыбуна» для выказу свайго абурэння. Такім чынам, вобразна кажучы, Кавалёў-крытык проста прыйшоў не ў час. І з той пары сітуацыя мала змянілася да лепшага. Тады ў фаворы былі публіцысты, цяпер — маркетолагі, а літаратурныя крытыкі амаль трыццаць гадоў з апушчанымі рукамі...

Большасць напісанага С. Кавалёвым вылучаецца не толькі змястоўнасцю, але і своеасаблівай танальнасцю, роздумнай, а калі і элегічна-роздумнай, а гэта значыць і стылёвай акрэсленасцю. Стала жывучы па-за межамі Беларусі, доктар філалагічных навук, спецыяліст па даўняй беларускай літаратуры і вядомы драматург Сяргей Кавалёў яскрава пацвердзіў уласную неабыякавасць і далучанасць да цяперашняга літаратурнага працэсу.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

*Погляд*

# Ніхто не слухае?

Наталля Кучмель — паэтэса і выдатны рэдактар. Яе рэцэнзіі часам з'яўляліся на старонках «ЛіМа» і вельмі добра ўспрымаліся чытачамі. Але ў апошнія гады крытычныя роздумы Наталлі Кучмель чытаць не даводзілася. Чаму? З гэтага пытання і пачалася наша невялікая размова.

— Сучасны стыль паэзіі, на мой погляд, нейкі... не такі. Гэта мо мае старэчыя разважанні, яшчэ і таму я іх не навязваю. Не хочацца нагадваць старую бабку, якая бурчыць, што ў яе часы і соль была саланейшая, і вада макрэйшая... Цяперашні стыль мне мала падабаецца. Бо нават таленавітыя — крыклівыя, нервовыя, заторганыя... Нейкія маскі крыўляюцца... Навошта? Гэта магчыма на пэўны час, але пакрысе трэба прыходзіць да сябе сапраўднага. Нават Ігар Севяранін — хто ўжо быў больш напышлівы, ненатуральны, пазёрскі — але і ён прыйшоў у немаладыя гады да самога сябе.

Мова, на якой цяпер пішуць, мне таксама не вельмі падабаецца. Яна альбо еўрапеізаваная і гладкая, нейкая дыстыляваная (што можна выказаць на такой мове?), альбо наўмысна нашпігавана рознымі этнаграфізмамі, дыялектызмамі... Мяркую, ні тая, ні другая не выконваюць сваёй галоўнай ролі — як найлепей перадаць думку аўтара, літаральна «выліць» яе, як яйка са шкарлупінаў, у місу.

**— Якой павінна быць літаратура, каб вы як чытач яе ацанілі?**

— У прозе не павінны тырчаць швы. Я не хачу бачыць, як зроблены твор. А гэта складана! Думаю, што задача мастацтва — гарманізаваць свет, збіраць яго, а не расштурхоўваць, расшморгваць. Проза сёння падзялілася на крыкі і літаратуру хэпі-эндаў, якую чытае працаўнік, адпахаўшы змену. Чаму шмат пісьменнікаў і мала чытачоў? Бо кожнага цікавяць свае болькі, і ён пра іх верашчыць. А пра чужыя чытаць увогуле не хоча!

**— Магчыма, многія аўтары застаюцца невядомымі, бо ваш погляд — гэта погляд чытачоў?**

— Цалкам можа быць. Функцыю чалавеказнаўства ў літаратуры адабрала псіхалогія і спраўляецца з ёю, здаецца, нават лепш. Функцыя інтэлектуальнай нагрузкі патрэбна не ўсім... Што ж засталося літаратуры? Функцыя забаўляльная і імкненне аўтара выказаць сябе. Кожны выказвае, і ніхто нікога не слухае.

**— Якія новыя літаратурныя імёны вы адкрылі для сябе апошнім часам?**

— Украінскі пісьменнік Сяргей Жадан — яго вершы я чула ўжывую, а яшчэ чытала ў перакладзе Андрэя Хадановіча, які многа і свайго туды ўклаў, але Жадана ўсё роўна відаць. Сапраўдную харызму не схаваеш! У творах спадабалася шчырасць і лагічнасць. Спадабалася, што чалавек выказвае выказванне, а не гуляецца са слоўцамі — падкідае іх і глядзіць, як паляцяць...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Пякучая праўда жыцця

Уладзімір Саламаха — сучасны празаік, на творчым рахунку якога шмат літаратурных набыткаў і мастацкіх адкрыццяў. Яго пяру належаць некалькіх яркіх кніг прозы і публіцыстыкі.




Новая кніга пісьменніка «І няма шляху чужога» — мастацка-філасофскі аналіз жыцця пасляваеннага пакалення, асэнсаванне трагічных падзей Вялікай Айчыннай у лёсах простых людзей.

У першай аповесці «І няма шляху чужога», паводле якой названа кніга, У. Саламаха засяроджваецца пераважна на лакальных падзеях, якія адбываліся ў вёсцы Гуда. Яго героі — простыя людзі, якім пашчасціла не загінуць, выжыць у складаных абставінах. Аўтар паказвае неверагодныя выпрабаванні, праз якія яны прайшлі.

Акцэнтуе ўвагу на драматычных аспектах, спыняецца на першых месяцах, калі адступала Чырвоная Армія. Так, герой аповесці Міхей трапіў у акружэнне пад Віцебскам і ледзьве здолеў дабрацца да роднай вёскі, «худы, знясілены, але жывы, цэлы».

Шмат піша У. Саламаха пра злачынствы фашыстаў на акупаванай тэрыторыі: «Заброддзе, як і Гуду, улетку сорак трэцяга спалілі фашысты. Спалілі, як і многія беларускія вёскі, разам з жыхарамі, здзяйсняючы нечалавечыя зверствы на зямлі, тыя зверствы, якія дагэтуль не чулі, не бачылі нябёсы». Беларусы рэзка адмоўна паставіліся да акупантаў, люта ўзненавідзелі фашыстаў і іх прыслужнікаў — пачалася ўзброеная барацьба з ворагам. У неверагодна цяжкіх умовах не гублялі надзеі, верылі ў наступленне шчаслівых дзён.

Мастацкімі сродкамі пісьменнік паказаў маштабы разбурэнняў. Гарады ў руінах, вёскі з жыхарамі зніклі. У вёсцы Гуда засталіся лічаныя. Хто ацалеў, жылі ў зямлянках, у нястачы і голадзе. Уся цяжкая праца легла на плечы жанчын і дзяцей.

Аўтар звяртае ўвагу на тое, што падчас вайны ў людзях прачнулася самае агіднае, звярынае. Многія дазвалялі сабе мярзотнае — здзекавацца з слабейшых. Пісьменнік асуджае тылавікоў або, як казалі ў народзе, «сыцікаў», іх цынізм і амаральнасць.

Дамінантная рыса ўсёй творчасці У. Саламахі — псіхалагізм, увага да ўнутранага стану чалавека. Аўтар імкнецца вытлумачыць прыроду ўчынкаў, засяроджваецца на душэўных пакутах герояў, пошуках імі выйсця амаль з безвыходных сітуацый. Так, галоўны герой твора — Іосіф Кучынскі — сірата, вырас без маці і зазнаў страшныя пакуты ў дзяцінстве. Маці памерла падчас родаў у полі, дзіця не ўбачыла. Калі Іосіф пасталеў, закахаўся дзячыну Тэклю, збіраўся ажаніцца з ёй, але зноў няшчасце: яе згвалціў Аўдзей Юхнавец і прымусіў выйсці за яго замуж. З-за жыццёвых абставінаў Іосіф Кучынскі мусіў узяць шлюб з іншай жанчынай — Марыяй, якая кахала іншага. Іосіф ведаў, што Марыя нарадзіла сына Стаса ад іншага мужчыны, але маўкліва зносіў нясцерпны душэўны боль. Беды на гэтым не скончыліся. З пачаткам вайны Стас пайшоў служыць у паліцыю: узненавідзеў савецкую ўладу і быў перакананы ў перамозе немцаў. Іосіф Кучынскі стаў ізгоем. Увесь час ён адчувае нянавісць і агіду з боку аднавяскоўцаў. І ўжо гатовы развітацца з жыццём, каб толькі скінуць гэты страшэнны цяжар. Пісьменнік паказвае яго неверагодныя пакуты з-за ўчынкаў Стаса, рукі якога ў крыві.

Пасля заканчэння вайны пакуты Кучынскага не скончыліся. Ніхто яму не спачувае. Жыве ў адзіноце, спрабуе наладзіць адносіны з людзьмі, аднак яго пазбягаюць.

Праз успрыманне герояў пісьменнік перадае літаральна ўсе важныя падзеі, якія знайшлі адлюстраванне ў аповесці. Так, жахлівую сцэну спалення немцамі летам сорак трэцяга года вёскі Гуда аўтар назірае вачыма Іосіфа Кучынскага, які знаходзіўся амаль у непрытомным стане. Страшэнны боль працяў сэрца героя твора Яўхіма, калі той вярнуўся з лесу і замест вясковых хат убачыў папялішчы з чорнымі комінамі: «Спрабаваў адшукаць сваю Марфушку і не знайшоў нават яе следу... Як і многіх сваіх суседзяў і аднавяскоўцаў. Успамінаў, потым знясілена трося, стагнаў, клікаў сыноў, быццам зноў бачыў іх перад сабой».

Ёсць у творы і светлыя сцэны. Вельмі прыгожая і рамантычная гісторыя кахання Яўхіма і Марфы. Уражвае містычная сцэна з'яўлення перад Іосіфам прывідаў — душаў яго жонкі Марыі, Стаса і каханай Тэклюшкі, якая згінула недзе ў высылцы.

Шмат у аповесці экзістэнцыянальных развагаў і філасофскіх высноў: «Людзі жывуць па сваіх няпісаных законах. Іх не абысці, не аб'ехаць. Чалавечыя законы вякамі складаюцца. Па іх нашы продкі жылі. Па іх і мы жыць павінны. І нашы дзеці. А як жа інакш?» На думку пісьменніка, людзі народжаны дзеля таго, каб сумленна жыць суладна з іншымі, супольна, бо чалавек можа быць шчаслівым толькі сярод людзей. Аўтар упэўнены: нікому не дадзена права штучна перапыняць жыццё, сілай бурыць і знішчаць жывое.

Пісьменнік разважае пра прыроду зла і прыходзіць да высновы, што высвятліць усе матывы і глыбінныя прычыны злога пачатку ў чалавеку — задача амаль невырашальная. На думку пісьменніка, зло разбуральна, бо невідушчае: «Крыўда паступова знікае, сціраецца з памяці, хіба што нейкі час застаецца шкадаванне, што так было. А вось зло патрабуе іншага сыходу. Яно сляпое. Яно чалавека нават за самую маленькую крыўду штурхае да помсты, расплаты».

Разважае пісьменнік і пра сямейныя каштоўнасці: шлюб без кахання — вельмі рызыкоўная і небяспечная справа. Аўтар заклікае да абачлівасці пры ацэнцы людзей і ўчынкаў: «Судзіць лёгка — зразумець, разабрацца цяжка». Закранае і экалагічныя пытанні.

Як бачна, паводле характару асэнсавання жыццёвага матэрыялу, глыбіні пранікнення ў псіхалогію персанажаў і ўвагі да мастацкіх дэталяў, аповесць У. Саламахі набліжаецца да паўнацэннага псіхалагічнага рамана.

У цэнтры аповесці «Расступіся, зямля» — трагічны лёс вясковай жанчыны Ліды Печань. У маладосці яна была надзвычай прывабнай. Выбрала працавітага хлопца Валодзю, выйшла за яго замуж, нарадзіла сыночка. Але пачалася вайна і ўсё зруйнавала...

Пісьменнік раскрывае ўнутраны стан Ліды, паказвае яе душэўныя пакуты і перажыванні ў розных сітуацыях. У крызісным становішчы гераіня апынулася пасля таго, як яе згвалціў Міхалай Костка. Аўтар раскрывае гора маці, якая дачасна страціла адзінага сына.

Пасляваеннае жыццё вёскі — зноў у полі зроку аўтара. Паказана, які страшэнны ўрон нанесла вайна.

Пранікаючы ў глыбінныя пласты народнага жыцця, пісьменнік імкнецца зразумець, якія фактары аказваюць вызначальны ўплыў на фарміраванне асобы. Паводле яго назіранняў, не толькі паходжанне, «кроў» і рысы характару, але ў значнай ступені прадвызначаюць лёсы выхаванне і жыццёвыя абставіны.

У. Саламаха шмат працуе над уласным мастацкім стылем. Мова яго твораў пластычная, кожны сказ і выраз адшліфаваны, дыялогі дакладныя, мастацкія сцэны яркія.

Такім чынам, аўтар ажыццявіў глыбокае мастацкае асэнсаванне трагічных вынікаў Вялікай Айчыннай вайны для Беларусі і беларускага народа.

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

# У пошуках блізкасці

Ева Лявонава — прафесар кафедры замежнай літаратуры Белдзяржуніверсітэта, даследчык-кампартывіст. У новай кнізе сабрана некалькі дзясяткаў артыкулаў, у якіх разглядаецца творчасць найбуйнейшых беларускіх пісьменнікаў: Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава. Літаратуразнаўца звяртаецца і да імёнаў Уладзіміра Жылкі, Алеся Адамовіча, Алеся Разанава, Алеся Асташонка, Георгія Марчука. Як вядома, даследчык-філолаг можа аналізаваць мастацкія з'явы рознага маштабу: ад канцэпту, матыву, вобраза да комплексу мастацкіх тэкстаў аднаго ці некалькіх аўтараў. У гэтым сэнсе артыкулы Евы Аляксандраўны вельмі разнастайныя, і творчасць кожнага пісьменніка разглядаецца ў адмысловым ракурсе.

Якія тэксты і для якога чытача будуць найперш цікавымі ў кнізе Е. Лявонавай? Галоўным чынам тут варта адзначыць першы раздзел: «Еўрапейскі дэкаданс і эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры». Дэкаданс, сімвалізм, імпрэсіянізм, натуралізм — сёння гэтымі тэрмінамі ўсё часцей карыстаюцца ў навуковых працах і размовах пра літаратуру. Як слушна зазначае Е. Лявонава ў дачыненні дэкадансу, «апошнімі гадамі айчынная навука значна больш аб'ектыўна ставіцца да гэтай найскладанейшай з'явы, тым не менш праблем (абумоўленых і тэрміналагічным разнабоем, і рознымі падыходамі да перыядызацыі літаратурнага працэсу, да творчасці канкрэтных мастакоў слова, і адвольнасцю выкарыстання паняцця «дэкаданс») пакуль значна больш чым дасягненняў». Новая кніга даследчыцы ў пэўнай ступені спрыяе вырашэнню гэтых праблем.

У першым раздзеле тлумачыцца гісторыя з'яўлення згаданых паняццяў, даецца іх вызначэнне, акрэсліваюцца характэрныя рысы мастацкіх з'яў. Е. Лявонава разважае пра сімвалізм, імпрэсіянізм, натуралізм, эстэтызм у звязку з творчасцю не толькі еўрапейскіх, але і беларускіх пісьменнікаў. Імпрэсіянізм выяўляецца ў паэзіі М. Багдановіча, эстэтызм — у вершах Т. Кляшторнага, натуралізм — у прозе К. Чорнага. Для тых, хто піша пра беларускую літаратуру, гэтыя супастаўленні могуць стаць стартавым пунктам для ўласных даследаванняў. Карысна і тое, што са спасылкай на кнігу Е. Лявонавай можна смела карыстацца патрэбнымі тэрмінамі ў «рабочым парадку» і не ўдакладняць іх па іншых (часта ў нечым супярэчлівых) крыніцах.

Другі цікавы артыкул кнігі — «Алесь Разанаў і постмадэрнізм». Пра постмадэрнізм як філасофію ці светапогляд часта разважаюць вельмі абстрактна, але постмадэрнізм як мастацкі напрамак мае дакладна вызначаныя характэрныя рысы. Ева Лявонава ставіць за мэту разабрацца, ці «ўкладваецца творчасць А. Разанава ў пракрустава ложа постмадэрнізму», і ў выніку грунтоўнага аналізу прыходзіць да адмоўнай высновы. Зварот да галоўных прынцыпаў, катэгорый, філасофска-эстэтычных параметраў постмадэрнізму робіць гэты разгляд доказным і грунтоўным. У выпадку літаратуразнаўства размова пра постмадэрнізм як культурную плынь магчымая толькі ў дачыненні да канкрэтных твораў, і Е. Лявонава выдатна дэманструе, як гэта варта рабіць.

Яшчэ адна істотная асаблівасць кнігі — вялікая ўвага даследчыцы да мастацкага перакладу. Е. Лявонава асобна спыняецца на перакладзе верша Г. Гесэ «У імгле», зробленым Я. Купалай, на перакладах А. Разанава з нямецкай паэзіі. Пішучы пра анталогію «Галасы з-за небакраю», звяртаецца да праблем узнаўлення сусветнай класікі на беларускай мове і аглядае галоўныя здабыткі нашых перакладчыкаў.

Е. Лявонава аднолькава спакойна і ўдумліва піша пра эстэтызм, постмадэрнізм, гукатворчасць, «амерыканскі» дыскурс, біблейскія вобразы. Выклікае павагу аб'ектыўнасць даследчыцы ў дачыненні да развіцця беларускай літаратуры XX стагоддзя, якое не варта ідэалізаваць.

Галоўнае пытанне, якое застаецца па чытанні кнігі, тычыцца яе жанру. Паводле анатацыі, «Беларускае мастацтва слова...» прадстаўляецца як манаграфія, але насамрэч кніга хутчэй з'яўляецца зборнікам навуковых артыкулаў. Бо манаграфія — гэта поўнае і ўсебаковае даследаванне адной праблемы ці тэмы, у якім павінны вылучацца новыя тэорыі і канцэпцыі. Дваццаць чатыры раздзелы новага выдання аб'яднаныя хутчэй не адной тэмай, а выкарыстаннем адзінай метадалогіі.




*Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад / Е. А. Лявонава. — Мінск : БДУ, 2014. — 319 с.*

Падсумаванне яшчэ наперадзе, але, нягледзячы на гэта, артыкулы Евы Лявонавай маюць неабвержную каштоўнасць. Бо асэнсаванне айчыннай літаратуры XX ст. у еўрапейскім мастацкім кантэксце сапраўды з'яўляецца «адным з прыярытэтных напрамкаў беларускага літаратуразнаўства».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



*Святочнае шэсце па вёсцы да жытнёвага поля.*

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Не ляці, страла...

Сёлета ў мяне ўпершыню атрымалася самой наведаць вёску Стаўбун, прысутнічаць на абрадзе ваджэння і пахавання стралы.

***

Мы выпраўляемся з Мінска ранняй раніцай. Сонца толькі нядаўна ўстала, а на асфальце яшчэ не паспелі высахнуць лужыны пасля начнога дажджу. У аўтобусе — навукоўцы з Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, студэнты і выкладчыкі кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, супрацоўнікі Інстытута культуры Беларусі. У адрозненне ад мяне, яны на свяце будуць не ўпершыню. Апрануўшы святочныя строі, многія самі стануць удзельніцамі абраду, а даследчыкі пабачаць старых знаёмых сярод мясцовых жыхароў. Мая ж мэта — назіраць, адчуваць, запамінаць. Вырашыла: паколькі буду прысутнічаць на сапраўдным абрадзе, які праводзіцца ў Стаўбуне спрадвеку, без мікрафонаў, дакладна напісаных сцэнарыяў і адмыслова развучаных песняў, то і я павінна быць гранічна шчырай у сваёй працы. Таму ніякіх блакнотаў і дыктафонаў — толькі чыстыя ўражанні і пачуцці.

— А вы бачылі, якія ўчора былі маланкі на небе? — пытаецца Таццяна Пладунова, выкладчык кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ. — Гэта ж стрэлы! Менавіта іх сёння будуць адводзіць ад вёскі жанчыны ў Стаўбуне. А потым пачнецца лета! Вы не забыліся ўзяць з сабой манеткі? Прыдумалі жаданні, якія будзеце загадваць?

Так, паводле павер'я, падчас абраду трэба пахаваць на жытнёвым полі стралу — закапаць металічную рэч як ахвяру Перуну. Звычайна гэта манеткі. Існуе таксама меркаванне, што падчас прынясення ахвяры можна загадаць жаданне — і Пярун яго выканае!

Шкадую, што не маю з сабою манеткі (дзеля эксперымента загадаць жаданне — магчыма, спраўдзіцца), ды і голас у мяне не надта падыходзіць для гучных спеваў: студэнты ўжо пачалі ўспамінаць фальклорныя песні, прыгадваць «стрэльныя» спевы, якія будуць выконвацца падчас абраду. За вокнамі знаёмыя краявіды гомельскай шашы змяняюцца зусім новымі маляўнічымі пейзажамі Веткаўшчыны. Бярэзіна, Сож, Бесядзь... Не зусім давяраючы навігатару, кіроўца запытваецца ў мясцовых жыхароў, як праехаць да Стаўбуна. Апошні дзясятак кіламетраў — і мы на месцы.



*Сёлета ў абрадзе ваджэння і пахавання стралы ўпершыню ўдзельнічалі маленькія жыхаркі Стаўбуна.*

***

У цэнтры Стаўбуна, ля мясцовага Дома культуры, незвычайна людна. На «Стралу» завіталі сябры гомельскага аб'яднання «Талака», ураджэнцы вёскі, якія сёння жывуць у іншых мясцінах Беларусі, госці з Масквы і нават з Германіі. Спявачкі з гурта «Стаўбунскія вячоркі» завіхаюцца ў Доме культуры, занятыя перадсвяточнымі клопатамі, але, нягледзячы на гэта, частуюць гасцей надзвычай смачнай гарбатай з мясцовых зёлак. Яна асвяжае і надае сіл.

Студэнткі і выкладчыцы БДУКіМ таксама рыхтуюцца да абраду — пераапранаюцца ў народныя строі, адпаведныя мясцовасці правядзення свята. Адны завязваюць панёвы — адмысловыя спадніцы — і адзяваюць гарсэты ў адпаведнасці з патрабаваннямі неглюбскага строю (ад Стаўбуна да Неглюбкі — з дзясятак кіламетраў). Іншыя робяць высокія прычоскі, каб замацаваць на іх галаўныя ўборы з рознакаляровымі стужкамі — як гэтага патрабуе веткаўскі строй. Мясцовыя жыхаркі з'яўляюцца ў цэнтры вёскі ў спадніцах, вышываных кашулях і фартухах. Усе гатовыя да свята.

Колькі рытуальных словаў, карагод, загучала песня... Абрад пачынаецца.

Ад усведамлення таго, што на тваіх вачах адбываецца дзея, у якой мясцовыя жыхаркі ўдзельнічаюць шмат стагоддзяў — як гэта рабілі маці, бабулі, прабабулі — дрыжыкі па скуры. Уражвае, што гэтыя песні жанчыны ведаюць фактычна ўсё жыццё, а пра сакральны сэнс кожнага з элементаў абраду прачыталі не ў кнігах, а пачулі ад продкаў. Дакладней, не пачулі, а прачулі на ўласным вопыце, жыцці. Таму асабліва кранальнымі выглядаюць дзяўчынкі гадоў 7-8 у спадніцах і вышываных фартушках. Вось яны — пераемнікі традыцыі: калісьці навучаць і сваіх дзяцей «вадзіць стралу», распавядуць пра сэнс гэтай дзеі.

Да вялікага карагода паступова далучаюцца групкі мясцовых жыхарак, якія з песнямі набліжаюцца да цэнтра вёскі.

Уражанне сакральнасці і адметнасці абраду псуюць упартыя фатографы: дзеля прыгожага кадра яны нахабна ўрываюцца ва ўнутраную прастору карагода. Гэта ж не пастаноўка, не тэатральная, сцэнічная версія, дзе ўся сістэма падпарадкоўваецца зручнасці фота- і відэаздымкаў. Гэта сапраўдны рытуал, за якім фатографу, рэпарцёру можна толькі з павагай назіраць збоку.

***

Старэйшыя жанчыны займаюць месцы ў першым шэрагу святочнага шэсця. Паводле правілаў, менавіта яны — асноўная рухальная сіла абраду. За імі выстройваюцца маладзейшыя кабеты, студэнткі і дзяўчынкі. Мужчыны па традыцыі ідуць крыху воддаль.

Па дарозе да жытнёвага поля ўдзельніцы абраду спяваюць адмысловыя «стрэльныя» песні. Рэпертуар вялікі, аднак некаторыя напевы гучаць некалькі разоў — надта ж іх любяць спявачкі! Нягледзячы на тое, што асноўная колькасць удзельніц ужо сабралася ў цэнтры вёскі, да абраду далучаюцца жанчыны і на шляху шэсця. Дарога да поля няблізкая, і некаторыя мясцовыя жыхаркі з-за ўзросту ўжо не могуць пераадолець такую вялікую адлегласць.

Усе ўсміхаюцца:

— Я думала, што мо і ня будзя стралы ў гэтым годзе!

— Як жа ня будзя! Будзя! — перамаўляюцца бабулі ў перапынку паміж спевамі.

Шэсце рухаецца хутка, жанчыны ідуць бадзёрай хадой. Таму, каб рабіць фотаздымкі, даводзіцца амаль бегчы наперад, што не вельмі лёгка: сонца пячэ нячадна. Але ўдзельніцы абраду здаецца, зусім не адчуваюць стомы. А яны ж яшчэ і спяваюць!

Напалохаўшы каня, качак, разагнаўшы купку курэй і, здаецца, зусім не ўразіўшы бесклапотных гусей, што пасвіліся каля сажалкі, шэсце наблізілася да жытнёвага поля.

***

Сёлета Вялікдзень быў досыць рана, таму да «Стралы» жыта не паспела добра вырасці — яшчэ не ўтварыліся каласкі. Але ў ніжэйшым жыце зручней вадзіць карагоды, зручней «качацца», набірацца сіл ад зямлі і аддаваць ёй сваю энергію для хутчэйшага росту збожжа. Таму, калі жанчыны скончылі спяваць песні і пачалі закопваць манеткі — «стрэлы» ды збіраць па дзевяць жытнёвых сцяблінак (якія пазней высахнуць за іконамі і стануць добрым абярэгам), мужчыны з жартамі і смехам распачалі рытуальнае «качанне». Адметна, што ў Стаўбуне прынята не проста падбегчы да жанчыны і «пакачаць» яе па жыце, але спачатку насмяшыць ці зрабіць «качанне» часткай жарту. Ды самі ўдзельніцы абраду з усмешкай кажуць:

— Нада ж добра пакачацца!

Старэйшыя жанчыны нават падбухторваюць моладзь і ўладным голасам загадваюць:

— Качайцеся!

Можна лічыць, што абрад скончаны. Але на гэтым свята не завяршаецца. Мясцовыя жыхары зноў збіраюцца ў шэрагі і ўсе разам крочаць да хаты, дзе іх ужо чакае гарманіст. Тут рэпертуар стрэльных песень змяняецца на вясёлыя прыпеўкі ды танцы. І гэта лагічна: маланкі ад вёскі адведзеныя, будучы ўраджай абаронены, Перуну ахвяры прынесеныя. Можна адпачыць і павесяліцца.

***

Песні будуць гучаць у Стаўбуне да самага вечара. Нам жа трэба зноў рушыць у шлях. Таму, падмацаваўшыся смачнымі дранікамі і папіўшы гаючага бярозавага соку, мы зноў збіраемся ў аўтобусе. Але вяртаемся дадому ў цішыні: стомленыя шэсцем, сагрэтыя веткаўскім сонцам, напоўненыя новымі ўражаннямі і пачуццямі.

У дарозе нас напаткалі дождж і навальніца. Значыць, добра павадзілі стралу ў Стаўбуне. Ёсць спадзяванне на багаты ўраджай. А яшчэ мы прывезлі з сабой лета!

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**



*Пачатак абраду — вялікі карагод у цэнтры вёскі.*

# Жывое сведчанне фотаздымкаў

**Ведаючы многія дэталі — і нават самыя дробныя — пра Вялікую Айчынную вайну, мы, здаецца, уяўляем ці не кожны дзень далёкіх і разам з тым такіх блізкіх драматычных, трагедыйных падзей. Пра самыя жорсткія фрагменты вайны расказваюць у кнігах, кінафільмах. Расказваюць праз памяць радавых салдат і маршалаў. Летапіс складаецца з многіх сведчанняў.**






Карэспандэнт рэдакцыі газеты «Уничтожим врага» 5-й арміі Заходняга фронту малодшы палітрук Х. Розін на перадавой пазіцыі дапамагае воінам М. Піваварву і П. Пановіну з выпускам баявога лісткa. 1942 г. Смаленская вобласць.



Фота Васіля Аркашава з альбома «Мая вайна...»

Маленькі жыхар в. Ялоўка Дарагабужскага раёна Коля Арлоў, чые бацькі былі пагнаныя ў Германію. Верасень 1943 г. Смаленская вобласць.

І ці не самыя важныя, самыя аб'ектыўныя доказы як фашысцкага гвалту, так і рашучага супраціўлення савецкага народа ў тыя пакутныя гады — фотаздымкі. Іх рабілі фотакарэспандэнты і проста ўдзельнікі вайны, сведкі многіх падзей.

Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў альбом франтавога карэспандэнта Васіля Аркашава «Мая вайна. Вялікая Айчынная вайна ў фотаздымках В. І. Аркашава». Аснову кнігі складаюць здымкі баявых дзеянняў. Але большасць кадраў высвятляе, вылучае чалавека, асобу, салдат і афіцэраў. Васіль Іванавіч шмат здымаў байцоў у тыповых франтавых абставінах. Разглядаючы менавіта такія здымкі, уяўляеш сапраўдны партрэт вайны. Аўтар не выбіраў прыгожых, фотагенічных герояў, ніхто з персанажаў не прыхарошваецца перад аб'ектывам, не пазіруе наўмысна.

Асабліва ўражлівымі падаюцца здымкі з чэрвеня і ліпеня 1941 года. Вялікую Айчынную Васіль Аркашаў пачаў карэспандэнтам газеты Беларускай ваеннай акругі «Красноармейская правда». Чытаем успаміны франтавога карэспандэнта: «25 чэрвеня сорак першага года я вярнуўся з адпачынку ў Мінск, у рэдакцыю акруговай газеты «Красноармейская правда», дзе працаваў карэспандэнтам. Горад гарэў. У небе кружыліся фашысцкія самалёты. З цяжкасцю дабраўся да вуліцы Максіма Горкага. Але рэдакцыі там не аказалася. Толькі пад вечар я знайшоў яе пад Мінскам у лесе.

На другі дзень атрымаў заданне выехаць у палкі 100-й стралковай дывізіі. Чырвонармейцы сустрэлі мяне нявеътліва. «Лейка» і цывільны касцюм, натуральна, выклікалі падазрэнне. Добра, што камандзір 331-га палка Іван Уладзіміравіч Бушуеў ведаў мяне раней. Дзякуючы яму я змог прыняцца за працу. 100-я паспешліва рыхтавала абарончы рубеж уздоўж Лагойскай шашы. Тут яна дала свой першы бой ворагу, знішчыўшы артылерыйскім агнём і бутэлькамі з гаручай сумессю каля ста фашысцкіх танкаў.

Там я зрабіў першыя здымкі вайны...»

Праўда вайны была і застаецца рознай. Але ж ва ўсіх праявах фотааб'ектыў перадае нам той даўні трагедыйны час. Страшна глядзець на руіны і трупы, страшна ўсведамляць, што жыццё забіралі ў дзяцей, немаўлят, маладых людзей. А некаторыя здымкі — як адлюстраванне таго, што боль за Радзіму, за тое, што перш-наперш робіцца на фронце, у агні і полымі, пранізвалі ўсё грамадства, увесь народ. Вельмі цікавым падаецца здымак, на якім у ліпені 1941 года Міхаіл Шолахаў гутарыць з нававбранцамі на Смаленшчыне.

Многія здымкі паказваюць побыт байцоў і камандзіраў. Вось воіны Заходняга фронту (кастрычнік 1941 года) гатуюць абед з канцэнтрату ў перапынку паміж баямі. Старшына Лукашоў выдае салдатам цёплыя рэчы (лістапад 1941, Маскоўская вобласць). Чырвонаармеец-экспедытар Краўчанка раздае пісьмы воінам (1942 год, Маскоўская вобласць). Медыцынскія работнікі аднаго са шпіталяў Заходняга фронту апрацоўваюць медыцынскія інструменты (1943 год, Смаленская вобласць).

Істотна адрозніваецца настрой здымкаў 1941 і 1943 гадоў. Болей усмешак, прыязнасці з'яўляецца на тварах мужных барацьбітоў за свабоду Айчыны. Васіль Аркашаў шмат здымае жыццё ў вызваленых раёнах. Ужо іншыя слёзы накотваюцца, калі бачыш, як людзі вяртаюцца ў родныя мясціны. Вось унікальны фотадакумент таго часу — «Вяртанне жыхароў у родныя мясціны ў раёне г. Дарагабуж. 1 верасня 1943 г. Смаленская вобласць». Зусім малая дзяўчынка — худзенькая, босая, хаця і ў паліто, — пераходзіць напалову разбураны мост, ды яшчэ мех на сабе нясе. А побач — выява, як канкрэтная сям'я Агеевых з вёскі Ялоўка вяртаецца ў вызваленае паселішча. Карова цягне двухколку з няхітрым скарбам... З той жа вёскі — і партрэт хлопчыка 3-4 гадоў, які падхапіў ката і стаіць каля зямлянкі. Гэта — Коля Арлоў, бацькоў якога адправілі ў фашысцкую няволю. Шырокі панарамны здымак паказвае суд над грамадзянінам, які быў старастам і ў час акупацыі выдаў фашыстам двух камсамольцаў...

У кнізе хапае здымкаў, якія добра вядомыя па ранейшых публікацыях. Напрыклад, і гэты — «Карэспандэнт газеты «Красноармейская правда» паэт Аляксандр Твардоўскі на сваёй радзіме — хутары Загор'е. 2 кастрычніка 1943 года». Аўтар паэмы пра Васіля Цёркіна працаваў у франтавой газеце, дзе і друкаваў раздзелы са сваёй паэмы.

Па здымках Васіля Аркашава можна вывучаць геаграфію вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў: Віцебск, Бягомль, Мінск, Смаргонь, Гродна... Кніга Васіля Аркашава, які пражыў доўгае творчае жыццё, здымкі якога зараз захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў, падштурхоўвае да болей грунтоўнага разгляду падзей, якія часам, здараецца, сёй-той імкнецца спрасціць, прадставіць у іншым, адрозным ад праўды, свеце.

Мікола БЕРЛЕЖ

# Акцёр, педагог, перакладчык

**З Андрэем Андрэевічам Калядой, які 3 чэрвеня адзначае сваё 75-годдзе (нарадзіўся ў вёсцы Панямонь на Навагрудчыне), мы пазнаёміліся яшчэ недзе ў канцы 60-х — пачатку 70-х гг. мінулага стагоддзя, калі малады імпазантны педагог, які тады працаваў на кафедры беларускага мовазнаўства пад кіраўніцтвам знакамітага прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, узначальваў адмысловы літаратурны студэнцкі тэатр «Жывое слова».**



Той літаратурны тэатр быў любімым дзецішчам Фёдара Міхайлавіча, ён яго стварыў і ўзгадоўваў у складаныя часы «зліцця нацый», калі беларускай жывой мове быў наканаваны лёс «мёртвай латыні» (Р. Барадулін). Сама назва студэнцкага тэатра, якая ў моладзевых аўдыторыях шчыра і прафесійна прапагандавала слова Я. Купалы і Я. Коласа, М. Багдановіча і М. Танка, Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава, У. Караткевіча і многіх іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў, захавальнікаў і гранільшчыкаў жывой беларускай мовы, пярэчыла русіфікацыі, што прыхоўвалася пад покрывам інтэрнацыяналізму. Вядома, прафесар Янкоўскі, былы партызанскі разведчык, мудры педагог, не мог даручыць кіраваць такой моўна-літаратурнай суполкай абы каму. І выбар яго выпаў на тагачаснага акцёра Купалаўскага тэатра Андрэя Каляду.

Несумненна, паважаны прафесар, тэатралюб, прыхільнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы, неаднойчы бачыў на тэатральнай сцэне акцёрскія магчымасці Андрэя Каляды, які стаў працаваць у тэатры адразу пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. А выконваў ён тады даволі складаныя ролі ў розных спектаклях: Эдгара Марка («Тысяча франкаў узнагароды» В. Гюго), Краўзэ («Рускія людзі» К. Сіманава), Блазна («Канец — справе вянец» У. Шэкспіра), Хоні («Людзі на балоце» паводле І. Мележа) і інш. Мяркую, што кінуліся ў вочы Янкоўскаму не так акцёрскія, як вымаўленчыя, арфаэпічныя здольнасці, яго выразнае, мяккае, дакладнае, тыпова беларускае маўленне, што тады, нават у тэатры, сустракалася нячаста. І ён угаварыў акцёра перайсці ў 1966 годзе на працу ў тагачасны Беларускі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Максіма Горкага (сёння — Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка). Угаварыў з яўным разлікам паяднаць яго прыродныя і набытыя падчас вучобы ў тэатральным інстытуце акцёрскія здольнасці з новымі — педагагічнымі. І, зразумела, з рэалізацыяй гэтых здольнасцей у працы сярод студэнцкай моладзі — будучыні краіны.

У многім дзякуючы Ф. М. Янкоўскаму ў вучэбных планах педагагічных ВНУ ў той час з'явіўся абавязковы курс «Выразнае чытанне». Не стану тлумачыць важнасць яго для педагогаў вышэйшай і сярэдняй школы. Для выкладання быў запрошаны ў педінстытут А. Каляда. А паралельна з гэтым — узначаліў літаратурны тэатр «Жывое слова». Вядома, было нялёгка — асабліва спачатку. Лягчэй з кіраўніцтвам — на грамадскіх пачатках — літаратурным тэатрам, з якім давялося працаваць ажно да 1991 г. Тут выдатна прыдаўся акцёрскі вопыт. Выявіў сябе А. Каляда і як рэжысёр, пастаноўшчык такіх літаратурных кампазіцый, як «У сям'і адзінай, дружнай», «Помніце, людзі...», «Хатынь — Сангмі», «Любоў зямная», «Калі цвіце папараць...» (да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа), «Помнім боль твой і страты твае, Беларусь» (да 40-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў) і інш. Тэатр пад яго кіраўніцтвам стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу чытальнікаў і калектываў мастацкага чытання (1970), І-га Усесаюзнага фестывалю тэатральнай самадзейнай мастацкай творчасці працоўных (1975—1977), Усесаюзнага агляду самадзейнай мастацкай творчасці (1983—1985). А ў 1977 г. літаратурны тэатр «Жывое слова» атрымаў ганаровае званне народнага, што стала заслужанай узнагародай і ўсяму калектыву, і яго кіраўніку.

Як вядома, выкладчыцкая праца ў ВНУ складаецца з дзвюх частак — педагагічнай і навуковай. Выкладчыкі кожны год трымаюць афіцыйную і досыць строгую справаздачу за рупнасць у абодвух кірунках. Таму, хочаш не хочаш, давялося Андрэю Андрэевічу пачаць займацца — зноў жа пры настойлівай парадзе і навуковым кіраўніцтве таго ж Янкоўскага — і навуковымі вышукамі. Тэма кандыдацкай дысертацыі была блізкай, сваёй: распрацоўка метадычных прынцыпаў выразнага чытання у студэнтаў-філолагаў (на матэрыяле беларускай літаратуры). Дысертацыя (прычым першая па такой тэме ў Беларусі) была паспяхова абаронена ў 1974 г. З лёгкай рукі Янкоўскага і распачаўся Каляда-вучоны, даследчык прыёмаў, сродкаў, методык выразнага і мастацкага чытання, што з часам увасобіліся ў яго шматлікіх артыкулах і кнігах. Нават дысертацыю ён абараняў, ужо трымаючы ў руках уласны арыгінальны вучэбны дапаможнік — «Выразнае чытанне» (1970), які затым — з дадаткам трох грампласцінак — вытрымаў яшчэ два дапоўненыя і дапрацаваныя выданні (1976, 1989). Затым былі «Тэхніка мовы лектара: Дыханне, голас, дыкцыя» (1975), «Выразнае чытанне. VI—VII класы» (1982: серыя «Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры»), «Дыкцыя і арфаэпія» (1988) і інш.

Своеасаблівасцю Каляды-педагога заўсёды было тое, што навуковыя пастулаты ён падмацоўваў практыкай. Так, гаворачы пра выразнае або мастацкае чытанне, іх падабенства і адрозненне, ён мог тут жа выкананнем асобных тэкстаў замацаваць тэорыю маўленчай практыкай. Тым самым ён мне нагадвае колішніх выкладчыкаў Янку Саламевіча і Васіля Ліцьвінку, якія, чытаючы на філфаку БДУ курс фальклустыкі, маглі і песню народную заспяваць, і нават танец станцаваць... А практыка выразнага і мастацкага чытання ў А. Каляды абмяжоўвалася не толькі студэнцкай аўдыторыяй (у БДПУ і — паралельна ў 1967—1972 гг. — у БДТМІ), але і пастаяннымі выступленнямі на радыё і тэлебачанні (у прыватнасці ў ролі вядучага перадачы «Беларуская літаратура ў школе» на БТ у 1971—1991 гг.), працай з членамі літаратурнага тэатра «Жывое слова» (1966—1991) і інш.

Урэшце, набыты педагагічны і выкладчыцкі вопыт абумовіў вяртанне ў 1989 г. кандыдата педагагічных навук, дацэнта А. Каляды ў родную альма-матар, але ўжо на высокую пасаду — прарэктара па вучэбнай рабоце. У гэты час патрэбна было арганізаваць стварэнне некалькіх соцень новых і пераклад на беларускую мову ранейшых вучэбных праграм і планаў, розных метадычных матэрыялаў, перавесці на родную мову выкладанне дзясяткаў прадметаў. І з гэтым ён, адчуваючы моцнае плячо тагачаснага рэктара БДТМІ, прафесара В. П. Шаранговіча, даволі хутка і выдатна справіўся. Але не адмежаваўся ад выкладчыцкай і навуковай працы. Проста дзіву даешся, ацэньваючы плён яго навуковых намаганняў, увасоблены ў такіх кнігах, як «Мастацкае чытанне ў школе. V—XI класы» (1992), «Слоўнік акцёра і рэжысёра» (1995), чатыры кнігі «Хрэстаматыі па сцэнічнай мове» (1998—2000), створаныя сумесна з І. Курганом, вучэбна-метадычны дапаможнік «Сцэнічная мова» (2006), «Беларускае літаратурнае вымаўленне» (2006; з трыма кампакт-дыскамі) і інш. Трохі больш вольнага часу стала, калі ў 2000 г. ён пакінуў пасаду прарэктара і стаў прафесарам кафедры «Сцэнічнай мовы і вакалу» таго самага інстытута, дзе і працаваў да выхаду на пенсію ў канцы 2008 г.

Але што такое «вольны час» у разуменні прафесара Каляды? Няма ў яго такога часу! І раней, і цяпер. Яшчэ з самага пачатку гэтага стагоддзя захапіўся перакладам рускай мастацкай прозы на беларускую мову. Перакладчыцкі талент — своеасаблівы. Гэта найперш талент пераўвасаблення, радня акцёрскаму. Таму зусім лагічна акцёр Каляда стаў перакладчыкам. Не раз я па-суседску бачыў, як ён, стоячы (дае знаць хвароба пазваночніка), абклаўшыся рознымі слоўнікамі, даведнікамі, перастварае сродкамі роднай мовы знакавыя творы найвыдатнейшых рускіх пісьменнікаў — раманы і аповесці Ф. Дастаеўскага («Аповесці. Апавяданні», 2002; «Выбраныя творы», 2004), І. Буніна («Выбранае», 2010), В. Астаф'ева («Вясёлы салдат», 2010), некаторыя п'есы А. Астроўскага, М. Гогаля, А. Чэхава, М. Горкага і інш. Сёння адно ў перакладах Каляды можна прачытаць на беларускай мове «Лаліту» У. Набокава, «Доктар Жывага» Б. Пастарнака, «Лёс чалавека» М. Шолахава» і «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» А. Салжаніцына («Выбраныя творы Нобелеўскіх лаўрэатаў», 2011), «Д'яблы: Раман з трох частак» (2013) Ф. Дастаеўскага, «Акаянныя дні» (2013) І. Буніна, «Чэвенгур» (2014) А. Платонава і інш.

Падкрэслю, што кнігі выдадзены за ўласны кошт ці з дапамогай дабрадзеяў. Іх тыраж зусім невялікі. Аднак значэнне — не пабаюся перабольшыць — проста агромністае! Па-першае, яны ў пэўнай ступені ліквідуюць прагал у беларуска-рускіх літаратурных сувязях. Маю на ўвазе творчае ўзнаўленне рускай мастацкай прозы, асабліва вялікіх яе жанраў (аповесці, раманы), сродкамі беларускай мовы. Па-другое, пераклады Каляды канцэнтруюць увагу чытача на шэдэўрах рускай літаратурнай класікі, асабліва актуальных для нашага часу, выхопліваючы іх з шырачэзнага (а часам і мутнага) патоку сучаснай славеснасці. Па-трэцяе, перастварваючы некаторыя тэксты, перакладчык, як і кожны таленавіты літаратурны творца, пашырае лексічныя і стылістычныя рэсурсы беларускай мовы.

І яшчэ адно, пра што не сказаць проста нельга. У апошні час зноў спатрэбіўся акцёрскі, дакладней — чытальніцкі талент Андрэя Каляды. Дзякуючы найперш Калядзе мы сёння маем цэлую бібліятэку аўдыкніг мастацкіх і вучэбных твораў («Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» І. Мележа, «Выбранае» У. Караткевіча, «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» М. Ермаловіча і інш.). Разам з тым у майстэрскім выкананні Каляды на рускай мове гучаць шматлікія творы рускіх (М. Карамзін, А. Пушкін, М. Някрасаў, А. Чэхаў, І. Бунін, А. Куприн, І. Бродскі ды інш.) і замежных (С. Тапеліус, А. Франс, Д. Карнегі ды інш.) пісьменнікаў і вучоных. Не стану і казаць пра важнасць такіх аўдыкніг у наш камп'ютарна-інтэрнэцкі век. Асабліва для студэнцкай моладзі, якая выкарыстоўвае кожную хвіліну для ўспрымання цікавай і неабходнай інфармацыі. У тым ліку звязанай з належнай мастацкай і навуковай літаратурай.

Дык хто ж ён, Адндрэй Каляда? Акцёр, педагог, перакладчык? І першы, і другі, і трэці. Творца ў трох асобах.

**Вячаслаў РАГОЙША**

# Завітала ў госці казка

Літаратурны дэбют маладой пісьменніцы, намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Алены Мальчэўскай адбыўся ў бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі. «Ша-Ша з левага чаравіка» — так называецца яе першая кніга для дзяцей.

Дзве казкі гэтага выдання — «Вера і шытыя сланы» і «Ша-ша з левага чаравіка» — навучаць заўважаць прыемныя дробязі ў жыцці і падкажуць, як навучыцца бачыць толькі вам вядомыя сакрэты і прыкметы існавання нечага чароўнага, загадкавага...

Урач-афтальмолаг з першай казкі гадуе ў сваёй кватэры аж чатыры сланы. Вядома, яны несапраўдныя, а цацачныя, са сваёй гісторыяй. А хто ж такі Ша-Ша? Пра героя гэтай казкі раней ніхто ніколі не чуў, не згадваецца ён ні сярод жывёл, ні сярод чароўных істот... Але існуе дакладна.

А яшчэ вучні 4-х класаў 105-й сталічнай школы «пабачылі» Веру з шытымі сланамі (з казкі «Вера і шытыя сланы») і самога Ша-Шу, якія пасяліліся ў лялечным тэатры бібліятэкі «Пацешка». Яны расказалі пра сябе простыя і прыемныя рэчы, а Ша-Ша навучыў прысутных... правільна боўтаць нагамі.

***

Нядаўна ў бібліятэку завітала пісьменніца, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец.

Прэзентацыя яе кніг для дзяцей «Брык і Шуся шукаюць лета» і «Дэтэктыўнае агенцтва «Брык і Шуся» адбылася ў кніжніцы. Вучняў 3-х класаў сталічнай СШ № 80 чакаў прыемны сюрпрыз — тэатралізаваныя спектаклі па дзвюх кнігах лялечнага тэатра «Пацешка», які працуе пры бібліятэцы.

А сама аўтар правяла імправізаваную прэс-канферэнцыю. Пытанні ад дзяцей былі нечаканыя. За самыя цікавыя — падарункі ад аўтара: яе кнігі.

**Тамара ПАТУК**

# Да бардаў праз класіку

Як узаемазвязаны паэтычныя традыцыі Аляксандра Пушкіна і Сяргея Ясеніна з аўтарскай песеннай творчасцю? Адказ — у кнізе айчыннай літаратуразнаўцы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніны Каленчыкавай «“Я снова чью-то песню слышу...”: Сяргей Ясенін і бардаўская песня» (Мінск, А. М. Вараксін, 2015).

Гэтае выданне ўяўляе сабою ўнікальнае даследаванне, аўтар якога канцэптуальна, глыбока, шматгранна асэнсоўвае і аналізуе культурна-гістарычны феномен бардаўскай песні, яго праявы ў творчасці пачынальнікаў жанру — А. Пушкіна ды С. Ясеніна, а таксама апісвае ўзлёт бардаўскай песні, які прыйшоўся на 1960 — 1980-я гады. Творчасць Аляксандра Галіча, Булата Акуджавы, Юрыя Візбара, Уладзіміра Высоцкага ды інш. разглядае ў шырокім агульнакультурным і літаратурным кантэксце, перш за ўсё — ясенінскім.

Ніна Каленчыкава, філолаг па адукацыі — выпускніца Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, — тры дзесяцігоддзі аддала працы ў школе, выкладаючы рускую і беларускую мову і літаратуру. Сёння яна аўтар шасці кніг, сярод якіх — «Пра песню народную, «Неруш» і Валянціну», «“Над вымыслом слезами обольюсь...”: Творчая споведзь» і г. д. Даследчыцу вабіць жывая повязь часоў і пакаленняў, пытанні славянскай фалькларыстыкі, пераемнасць вечных каштоўнасцей і духоўных ідэалаў, у прыватнасці творчы ўплыў класічнай пушкінскай спадчыны не толькі на С. Ясеніна, але і на сучасных паэтаў.

Кнізе «“Я снова чью-то песню слышу...”: Сяргей Ясенін і бардаўская песня» аўтар прысвяціла паўтара дзесяцігоддзя. Даследаванне — вынік карпатлівай працы з багатым бібліяграфічным матэрыялам: артыкуламі, анталогіямі, энцыклапедыямі, дысертацыямі. Першая частка прысвечана творчасці Аляксандра Пушкіна, Апалона Грыгор'ева і Сяргея Ясеніна як пачынальнікаў рускай аўтарскай песні, другая — комплекснаму аналізу бардаўскай песні 1950 — 1980-х гадоў, трэцяя — праявам ясенінскай традыцыі ў творчасці расійская шансанье Аляксандра Новікава, дзе складнікі паэтычнага свету рускага класіка знайшлі адметную трактоўку: «Я не нищий, ни жалок, ни мал» (С. Ясенін) — «Я не нищий. Мне не подают» (А. Новікаў). Н. Каленчыкава прыводзіць мноства падобных прыкладаў.

Што да бардаўскай песні 1950 — 1980-х гадоў, то яна развівалася за межамі афіцыйнай музычнай культуры, замоўчвалася. І, хоць існавала амаль падпольна, заставалася з'явай культурнасацыяльнай. Які шырокі грамадскі рэзананс атрымала творчасць Уладзіміра Высоцкага і Булата Акуджавы! Кніга Ніны Каленчыкавай — пра гэтых стваральнікаў бардаўскай песні, ды не толькі пра іх.

«Чытанне-спеў» — так называе Н. Каленчыкава спецыфічную выканальніцкую манеру Сяргея Ясеніна. І нездарма сучаснікі называлі яго князем песні — адзін цыкл «Москва кабацкая» («Что то злое во взорах безумных, // Непокорное в громких речах...») чаго варты!




Аўтар распавядае: талент Ясеніна-песенніка расквітнеў ва ўлонні сям'і, роднага дома. Багатую глебу для яго развіцця стварыла руская прыпевачная традыцыя. Паэт часцяком выконваў пад гармонік родныя разанскія прыпеўкі. А ў 1918 г. апублікаваў на старонках маскоўскай газеты «Голос трудового крестьянства» больш як сотню прыпевак, сабраных на малой радзіме — у Разанскай губерні.

«Поэт поёт — ему и больно, и горько, и обидно, и трудно...» — піша даследчыца. І далей: «Благодарность жизни пропета им сполна. Поэзия Есенина — гимн жизни и всем её радостям». Гімн гэты не застаўся непачутым: ён атрымаў годны працяг у творчасці Мікалая Рубцова, Аляксандра Новікава, Аляксандра Галіча ды іншых суаўтараў «жыццяпісу» бардаўскай песні.

**Яна ЯВІЧ**

# Яшчэ трохі і Праванс

Падарожнічаць любяць усе. Натхненне ад новых мясцін, ведаў, культур іншых краін — усё гэта ўзбагачае ўнутраны свет чалавека. Швейцарскі філосаф і пісьменнік Ален дэ Ботан пераконвае свайго чытача: сапраўднае падарожжа — гэта таксама мастацтва. Таму і раман свой ён назваў менавіта так: «Мастацтва падарожнічаць».

Назва не толькі прываблівае, але прымушае і задумацца: ці проста выправіцца ў падарожжа? Няўжо ёсць нейкія іншыя правілы і схемы, акрамя наведвання ў незнаёмай краіне знакамітых мясцін і папулярных экскурсій? Ален дэ Ботан з такімі стандартамі не згодны. Ён лічыць, што падарожжа — гэта перш за ўсё адчуванне свабоды і шчасця, таму і выпраўляцца ў дарогу трэба ўжо падрыхтаваным.

Галоўны герой рамана — сам творца. Усе прыгоды, якія ён апісаў у кнізе, з ім здарыліся. Калі чытаеш твор, разумееш, што яго аўтар — надзвычай цікавы чалавек. Аднойчы, падчас працы над раманам «Тыдзень у аэрапорце», ён на самай справе жыў цэлы тыдзень у найбуйнейшым аэрапорце Еўропы. Менавіта таму чытач можа цалкам даверыцца досведу пісьменніка і акунуцца ў яго свет, поўны незабыўных прыгод.




Дык у чым мастацтва падарожжаў? У Алена дэ Ботана ёсць на гэты конт асаблівая тэорыя. Для кожнай вандроўкі ён выбіраў гіда, які суправаджаў бы аўтара на ўсім шляху. Напрыклад, для дарогі ў правансkую вёску — неймаверна прыгожае месца — пісьменнік выбраў аднаго з самых знакамітых мастакоў ва ўсім свеце Вінцэнта Ван Гога, які калісьці вельмі любіў пісаць свае карціны менавіта ў Правансе. Канечне, пад словам «гід» аўтар мае на ўвазе творы мастацтва. Менавіта яны дапамаглі дэ Ботану пабачыць і адчуць хараство. Такім чынам ён і здзейсніў сваю тэорыю на практыцы: пакуль аўтар не ўбачыў карціны Ван Гога, пакуль не заўважыў кантрастаў і яркіх фарбаў, не мог адчуць прыгажосць гэтага незвычайнага месца. А прачытаў гісторыю жыцця мастака, паразважаў над яго работамі — і ацаніў цудоўныя мясціны, атрымаў моцныя ўражанні ад падарожжа.

Прачытаць гэты раман — атрымаць падвойную карысць: і ў далёкае падарожжа паехаць, не адрываючыся ад чытання, і біяграфіі слынных творцаў вывучыць. Кніга «Мастацтва падарожнічаць» сапраўды натхняе. Адразу хочацца выкарыстаць новыя веды і адчуць усё, пра што так лёгка распавядае свайму чытачу аўтар.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

# Спачатку была літара

Зборнік крытычных артыкулаў Ірыны Шатыронак «Ліцернае слова» пра стан сучаснай літаратуры завяршае праект выдавецтва «Рэгістр», у які ўвайшлі папярэднія кнігі «Слова пра слова» (2012) і «Чалавек з вуліцы Літаратурнай» (2013).

Пісьменніцкая крытыка — жанр асаблівы. Сюды можна аднесці рэцэнзіі, эсэ, водгукі, урыўкі з прафесійнай перапіскі і іншыя назіранні і развагі пісьменніка пра стан сучаснага літаратурнага працэсу.

У апошнія гады пісьменнікі не надта актыўна ацэньваюць творчасць калег у перыядычным друку. Але празаік Ірына Шатыронак актыўна працуе і ў жанры пісьменніцкай крытыкі. Яна ўпэўненая, што аўтарам, як нікому іншаму, вядомыя літаратурныя справы. Больш за тое, мастацкую крытыку пісьменніца лічыць творчасцю.

Ірыне Шатыронак уласціва быць шчырай, укладаць у тэкст палкасць, каб і чытачы не засталіся абыякавымі. У новую кнігу ўвайшлі артыкулы, напісаныя цягам апошніх гадоў, многія з іх публікаваліся ў беларускіх і расійскіх перыядычных выданнях, а таксама на літаратурных сайтах. У кнізе чатыры раздзелы: «Літаратурная крытыка», «Рэцэнзіі», «Публіцыстыка», «Эсэ. Разважанні. Каментарыі», якія аб'ядноўваюць 48 артыкулаў.

Характэрна тое, што рэцэнзенты ўсіх кніг, а гэта Людміла Саянкова, загадчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, Тамара Сіманава, дацэнт ГрДУ імя Янкі Купалы, Святлана Замлелава, галоўны рэдактар часопіса «Камертон» (Масква), адзначаюць важную рысу характару аўтара — адказнасць за напісаное слова. Яны пішуць: «Ірына Шатыронак — чалавек, які «носіць вопратку» са свайго, а не з чужога пляча, як і кажа толькі сваім голасам, у якім чуюцца інтанацыі эмацыйнага чалавека, які адчувае, жыва рэагуе. У гэтых інтанацыях бачыцца радасць, горыч, раздражненне, непрымання. Але гэта лепш, чым сумная правільнасць, замяшаная на абыякавасці і безуважнасці».

Ірына Шытыронак — актыўны ўдзельнік літаратурнага працэсу. Упэўненая, яе творы зацікавяць аматараў літаратуры, дапамогуць далучыцца да актыўнага пазнання сучаснай творчасці.

**Таццяна ФАЛАЛЕЕВА**

# Ад дзядулі Дняпра

Сустрэча з пісьменнікам, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Генадзем Аўласенкам прайшла ў дзіцячай бібліятэцы № 9 г. Мінска. Вучні сярэдніх школ № 43 і № 131 з цікавасцю ўспрынялі той факт, што аўтар чвэрць стагоддзя настаўнічаў у школе — выкладаў хімію і біялогію.

Творца чытаў уласныя вершы, загадваў загадкі, прэзентаваў свае кнігі «Вася Лайдачкін у краіне Шкодных Звычак» і «Казкі дзядулі Дняпра». Г. Аўласенка адказаў на пытанні і запрасіў у новае падарожжа з «Бярозкай», распавёў пра гісторыю часопіса і заклікаў дзяцей ствараць яго разам.

**Наталля САКАЛЯНСКАЯ**

# На бібліёбусе

Бібліятэка — адно з самых запатрабаваных месцаў у аграгарадку Дварэц. Наведвальнікі тут заўсёды. І да кожнага ўмее падабраць ключык загадчык кніжніцы Любоў Харошка. Па выніках работы за 2014 год яна прызнана лепшай сярод работнікаў культуры Рагачоўшчыны.

— Наша бібліятэка абслугоўвае 530 чытачоў, выпісваем 26 часопісаў і 15 газет, таму ёсць што прапанаваць жадаючым азнаёміцца з навінкамі літаратуры і грамадска-палітычнага жыцця, — распавяла Любоў Сяргееўна. Кніжніца, без перабольшвання, садзейнічае духоўнаму адраджэнню вёскі. Працуе ў цесным кантакце з іншымі ўстановамі культуры і сацыяльнай сферы, сельсаветам, Свята-Троіцкай царквой. Ёсць у кніжніцы цікавы этнаграфічны куток, дзе прадстаўлены як старадаўнія прадметы, так і сучасныя вырабы жыхароў аграгарадка.

Асаблівая ўвага — дзецям і моладзі. Любоў Сяргееўна стварыла клуб чытання «Падлетак», з актывістамі правяла шэраг цікавых мерапрыемстваў, прысвечаных 70-годдзю вызвалення Рагачоўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 70-годдзю Вялікай Перамогі, Пасхальны фестываль. Сталі традыцыйнымі прэзентацыі новых кніг, знаёмства з літаратурнымі навінкамі, з часопісамі Выдавецкага дома «Звязда».

На бібліёбусе раённага аддзела культуры Любоў Харошка разам з работнікамі Дварэцкага і Кашарскага сельскіх Дамоў культуры наведвае іншыя населеныя пункты, каб не толькі выдаць кнігі, але і выступіць з мініканцэртам.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# «Парнас» зачароўвае

«Сувязь пакаленняў» — пад такой назвай прайшло чарговае літаратурнае свята ў паэтычным клубе «Парнас», створаным сталічным аддзяленнем СПБ пры публічнай бібліятэцы № 5. Перад навучэнцамі архітэктурна-будаўнічага каледжа і студэнтамі медыцынскага ўніверсітэта выступілі паэты розных пакаленняў.

Кіраўнік клуба, паэт Міхась Пазнякоў, разважаў пра захаванне пераемнасці паміж пакаленнямі, умацаванне еднасці народа, супрацоўніцтва і сяброўства. Прачытаў творца свае вершы, прысвечаныя Вялікай Перамозе, героям вайны, Беларусі, славянскай супольнасці. Затым прадставіў слухачам членаў СПБ: паэтаў Мікалая Кулецкага, Хізры Асадулаева, Міколу Шабовіча і прадстаўнікоў таленавітай творчай моладзі Ганну Мартынчык і Віктара Гасюля. У іх выкананні прагучалі вершы рознай тэматыкі: ад патрыятычных да любоўнай лірыкі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Калі маўчаў салавей

## ЛЯСЫ І СЦЕЖКІ

Адзін з сёлетніх літаратурных юбілеяў — 110-годдзе з дня нараджэння празаіка Алеся Пальчэўскага. Яго апавяданні «Добрае слова» і «Крыўда» ўключаны ў чытанкі для вучняў пачатковых класаў. Журналіст, знаўца беларускай літаратуры Уладзімір Юрэвіч у прадмове да двухтомнага збора твораў А. Пальчэўскага раіў распачынаць знаёмства з творчасцю гэтага аўтара аповесцю «Сцежкі», напісанай у 1961 — 1974 гг., дзе пісьменнік згадваў свае дзяцінства і юнацтва — да ад'езду на вучобу на «рабфак». Паводле кампазіцыі, настрою, стылю, твор крыху нагадвае аповесць Змітрака Бядулі «У дрымучых лясах»: пісьменнікі з вялікай любоўю апісваюць бацькоў і сваякоў, распавядаюць пра дзяцінства як пра добры час, у якім, тым не менш, не пазбегнуць непрыемнасцей. Знаходзіцца месца і сацыяльным супярэчнасцям...

Цікава, што да працы са словам абодва аўтары прыйшлі аднолькавым чынам: як мясцовым грамацеям, ім даводзілася пісаць лісты ад суседак, адрасаваныя карміцелям сям'і. Змітрок Бядуля пісаў ад ільінскіх жанчын да іх мужоў і жаніхоў, якія з'ехалі ў Амерыку па заробкі, а Алесь Пальчэўскі — ад імя сялянак да мужчын, прызваных на Першую сусветную вайну. Гэтыя допісы сталі для А. Пальчэўскага «першай спробай перадаць на паперы чужыя думкі сваімі словамі». «Хто ведае, ці не было тое першае, напісанае мною пісьмо ад салдаткі мужу пралогам да мае першае замалёўкі з вясковага побыту, якую надрукаваў праз дзесяць год Кузьма Чорны ў «Беларускай вёсцы», — разважаў пісьменнік у «Сцежках».

З. Бядуля як рэдактар «Савецкай Беларусі» быў адным з першых чытачоў ранніх апавяданняў А. Пальчэўскага — раіў «працаваць на літаратурнай ніве і пабольш чытаць мастацкіх твораў». Розніца ва ўзросце паміж пісьменнікамі — каля дваццаці гадоў. Калі Пасадзец Самуіла Плаўніка быў мястэчкам бедным, але спакойным, то дзяцінства Алеся Пальчэўскага прыпала, бадай, на самы віхурны час у беларускай гісторыі. Жыццёвыя сцежкі пісьменніка прыводзяць чытача на Уздзеншчыну, у вёску Прусінава. «Дзевяць разоў мянялася ўлада за пяць гадоў: ад царавання Мікалая да замірэння з палякамі і ўсталявання цвёрдай Савецкай улады», — прыгадваў А. Пальчэўскі ў аповесці. Пасля лютаўскай рэвалюцыі сяляне арганізавалі калонай хадзілі па Прусінава і спявалі раней невядомую «Марсельезу». Зімой 1920 — 1921 гг. вёска лічылася памежным пунктам, сюды зазіралі як польскія, так і савецкія салдаты — але сустракацца ім, па дамоўленасці, было забаронена. У выніку Рыжскага пагаднення Прусінава апынулася ў складзе РСФСР: «Белы арол пазіраў на наш бок, а перакрыжаваны молат і серп — на польскі».



Рэчы Алеся Пальчэўскага і Тамары Цулукідзэ ў экспазіцыі Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея.

Як згадвае пляменнік пісьменніка Іван Міхайлавіч, застава памежных войскаў знаходзілася ў будынку панскага маёнтка, а ў вёсцы часта ладзіліся канцэрты армейскай самадзейнасці — каб музыку і песні маглі пачуць нават у панскай Польшчы. Салдаты прывозілі і кіно, якое вельмі падабалася мясцовай дзятве.

Сёння Прусінава — ціхая маляўнічая вёска, большасць дамоў — дачы. Прыветная і ахайная хатка, у якой нарадзіўся пісьменнік, і цяпер з'яўляецца жытлом Пальчэўскіх: на лета сюды прыязджаюць дочкі яго старэйшага брата, Міхаіла Восіпавіча. Сваякі і суседзі згадваюць пісьменніка як чалавека спакойнага, зычлівага, адкрытага, добрага. Алесь Пальчэўскі любіў размаўляць з аднавяскоўцамі, ахвотна хадзіў з імі ў грыбы і на рыбалку (недалёка ад вёскі — славуты Нёман). Па словах суседкі Марыі Пальчэўскай, пісьменнік за свае грошы дапамог многім сялянам пабудаваць уласныя калодзежы. Невыпадкова адно з яго апавяданняў называецца «Стахнова студня»: стаўленне да калодзежа можа шмат сказаць пра чалавека! Станоўчыя героі Алеся Пальчэўскага таксама добрыя, спагадлівыя, шчырыя. Калі гартаеш яго кнігі, падаецца неверагодным, што пісьменнік правёў у высылцы цэлых пятнаццаць гадоў. Словамі аднаго персанажа, «вялікае ж у яго сэрца, калі змог дараваць такую крыўду»!

## ПРА ДЗЯЦЕЙ

Адна з першых кніг А. Пальчэўскага — п'еса «Зламаная іголка» (1934) — твор абсалютна тыповы для свайго часу, дзе пільныя піянеры выкрываюць калгасніка-шкодніка, некалі заможнага гаспадара. Пасля працяглага перапынку ў Дзяржаўным выдавецтве БССР у рэдакцыі дзіцячай і юнацкай літаратуры пабачыў свет зборнік апавяданняў «Беражанкі» (1958). У гэтай кнізе, як і ў многіх іншых творах, пісьменнік вучыць маленькага чытача быць сумленным і ўважлівым да іншых, дапамагаць у бядзе, шанаваць чужую працу — нават калі гэта высілкі птушак-беражанак, якія рыюць у беразе ракі глыбокія норы-гнёзды. Многія апавяданні прысвечаны дачыненням чалавека і прыроды, міжасабовым адносінам, праблеме выбару ў экстрэмальнай сітуацыі. Аўтар звяртаўся да самых розных жыццёвых сітуацый: напрыклад, стасункі між падлеткам з дзетдома і яго нечакана знойдзенай маці. «Алесь Пальчэўскі быў пісьменнікам, які нічога не выдумляў. Ён слухаў людзей, запісваў — і рэальныя гісторыі ператвараліся ў творы», — так вылучае Іван Міхайлавіч галоўны мастацкі прынцып свайго дзядзькі і многіх яго калег. Кнігі А. Пальчэўскага былі патрэбны: па ўспамінах Тамары Цулукідзэ, пісьменнік «заўсёды быў абкружаны гурбою дзяцей, яго чытачоў. Яны прыходзілі да нас то па аўтограф, то проста так: «У госці да дзядзькі Алеся!».



Фота Святланы Халецкай

Помнік на магіле Алеся Пальчэўскага.

Пісьменніку не давялося выхоўваць уласнага сына: Алесь Пальчэўскі быў высланы, а жонка змяніла прозвішча сабе і дзіцяці, потым другі раз выйшла замуж. Праўда, інфармацыя пра тое, што бацька і сын назаўсёды засталіся чужымі адзін аднаму, — адна з недакладнасцей біяграфаў. Пра непаразуменні Алеся Пальчэўскага з сынам згадваў, напрыклад, Янка Скрыган — але, па словах Івана Міхайлавіча, стасункі з цягам часу наладзіліся. Сын пісьменніка нават завітаў аднойчы ў Прусінава.



Дом, у якім нарадзіўся пісьменнік.

## ІНТЭЛІГЕНТНАЯ СЯМ'Я

Падчас высылкі ў Краснаярскім краі Алесь Пальчэўскі пазнаёміўся з легендарнай грузінскай актрысай Тамарай Цулукідзэ. Вядомых людзей у тых мясцінах было нямала: у хату Пальчэўскага зазіраў Уладзімір Дубоўка, літаратуразнаўца Валерыян Пераверзеў. Як падкрэслівала Тамара Цулукідзэ, яе адносіны з Пальчэўскім былі не раманам, не захапленнем, а «глыбокім братэрствам у няшчасці». У 1951 годзе, праз некалькі месяцаў пасля знаёмства, пісьменнік прыйшоў да Тамары Цулукідзэ з букетам ландышаў: «Я ведаю: я просты сялянскі сын, можа быць, і не варты вас. Але я мацнейшы! Я засланю вас ад усіх нягод, якія наканаваны вам». У гэты час Тамары Георгіеўне было сорак восем, Алесю Восіпавічу — сорак шэсць.

Пасля вызвалення Тамара Цулукідзэ прыехала ў Тбілісі, дзе раней жыла і працавала разам з мужам — знакамітым тэатральным рэжысёрам Сандра Ахметэлі, арыштаваным у 1936 годзе і праз паўгода расстраляным. Вяртанне да тэатральнага жыцця ў роднай Грузіі стала непрацяглым: «У маёй асобе яны вітаюць Сандра Ахметэлі, шануюць яго памяць, дзякуюць за шчасце далучэння да вялікага Мастацтва Тэатра (...) яму адрасаваныя авацыі, да яго звернуты ўсе сэрцы, перапоўненыя невыказаным болем...» — так згадвала ў дзённіку Т. Цулукідзэ спектакль па п'есе А. Папова «Сям'я», дзе выконвала ролю Марыі Ульянавай.

У Мінску Тамара Георгіеўна і Алесь Восіпавіч пражылі разам больш за чвэрць стагоддзя. Як успамінае Арсень Ліс, гэта была вельмі прыгожая, інтэлігентная пара. Кожнае лета сям'я праводзіла ў Прусінаве, і вяскоўцы згадваюць Тамару толькі добрымі словамі. У пэўнай ступені пад уздзеяннем мужа Т. Цулукідзэ звярнулася да літаратурнай працы. У мінскіх выдавецтвах пабачыла свет пяць яе кніг для дзяцей, сярод іх — «Калі ўзнімаецца заслона» (1963) і «Тваё чэснае слова» (1973). У першай кнізе заслужаная артыстка Грузінскай ССР знаёміла маленькага чытача з тэатрам — звярталася да гісторыі тэатральнага мастацтва, апісвала працу над спектаклямі і прафесійнае жыццё акцёраў. «Тваё чэснае слова» — зборнік п'ес для школьных драматычных гурткоў і тэатра лялек. Між сямі твораў — п'еса «Салавей» па аднайменнай казцы Г.-Х. Андэрсэна — любімы лялечны спектакль Тамары Цулукідзэ, упершыню пастаўлены ў 1944 г. у лагеры Комі АССР. Рэжысёр у грыме пад кітаянку сама чытала тэкст «ад аўтара»... Пастаноўка мела вялікі поспех у гледачоў — не толькі вязняў, але і мясцовых жыхароў.

Але галоўным літаратурным творам гэтай пісьменніцкай пары побач з аповесцю «Сцежкі» А. Пальчэўскага сталі мемуары Т. Цулукідзэ «Усяго адно жыццё», якія актрыса пісала ў 1971 — 1976 гг. Алесь Пальчэўскі ганарыўся літаратурнымі здольнасцямі жонкі, але кніга пабачыла свет ужо пасля яго смерці, у 1983 г., у Тбіліскім выдавецтве «Хеловнеба». Кніга ў першую чаргу прысвечана творчасці С. Ахметэлі і тэатральнаму жыццю Грузіі. Гэтыя ўспаміны былі вельмі значнымі для аўтаркі, таму твор атрымаўся эмацыянальным, яркім, храналагічна дакладным. Пра свой лёс пасля арышту Тамара Цулукідзэ распавяла на апошніх шасцідзяці старонках кнігі — пераважна ў форме дзённікавых запісаў.

Творчасць А. Пальчэўскага і Т. Цулукідзэ — нагода яшчэ раз задумацца над мінулым і нават здзівіцца яму. У эпілогу да «Жыцця...» Тамара Георгіеўна зазначае, што гэта кніга «пісаная крывёй сэрца», а ў наступным абзацы піша: «як цудоўна, што ў свеце ёсць сяброўства, ёсць светлая праца дзеля радасці людзей». Як сведчаць творы Алеся Пальчэўскага, для чалавека савецкай эпохі гэтыя словы былі не проста літаратурным штампам. Таму творы тагачасных пісьменнікаў і цяпер патрэбныя, каб выхоўваць дзяцей сумленнымі, справядлівымі, шчырымі.

Імёны Алеся Пальчэўскага і Тамары Цулукідзэ не забытыя і сёння. На могілках у Прусінаве стаіць помнік пісьменніку, зроблены па замове жонкі. Іван Міхайлавіч чытае мінскім унучкам дзядзькавы апавяданні. А літаратурная спадчына А. Пальчэўскага чакае перавыдання: з яго лепшых твораў атрымалася б выдатная кніга для беларускай дзятвы!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**



# Жыццё ўсё дамалюе...

**Год таму, 1 чэрвеня 2014 года, у вёсцы Махро Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці адкрылася Галерэя Аляксея Кузьміча. Шкада, што сам мастак не дачакаўся гэтага дня: памёр 31 кастрычніка 2013 года. Памяць знакамітага земляка махроўцы ўшанавалі ў мясцовым Доме культуры. Думаецца, выставачная зала спадабалася б жывапісцу, бо нагадвае сапраўдную майстэрню. Мальберт з фарбамі творцы і пісьмовы стол з дзённікавымі запісамі, кнігі, асабістыя рэчы...**

Зала змясціла больш як 40 палотнаў мастака. Уражвае першая яго мадонна — маці Аляксандра Максімаўна. Жывапісец заўсёды ўспамінаў пра матулю з вялікай пашанай і любоўю. Бацька памёр, калі Аляксею было два гады. Гэтую трагедыю будучы мастак адлюструе ў трыпціху «Мая сям'я».

— Маці настолькі разгубілася, што не ведала, як навучыцца жыць без любага Васіля, напачатку вымольвала ў Бога смерці для сябе. Мы, пяць сясцёр і я, стараліся праявіць сябе найлепшым чынам, каб маці ацаніла нашу любоў, пачала ўсміхацца і радавацца маленькім перамогам, — калісьці з пяшчотай узгадваў Аляксей Кузьміч. — Дапамагаў нам дзядуля. Але і яго напаткаў трагічны лёс: праз пяць гадоў забіла маланка. Я застаўся адзіным мужчынам у сям'і — трэба было дапамагаць маці ды сёстрам. Але заўсёды знаходзіліся хвіліны для малявання.

Захопленасць сына мастацтвам хутка прыкмеціла маці і адвяла Аляксея да настаўніка Анатоля Рубановіча, які вучыўся ў Варшаве, Вене, Парыжы. Па словах будучага жывапісца, Анатоль Паўлавіч навучыў яго «не толькі маляваць убачанае, але і надзяляць яго жывой сілай, уяўляць і развіваць у вобразах». Працэс фарміравання мастака-асобы сам Аляксей Кузьміч звязваў менавіта з першым сваім настаўнікам. Пасля было далучэнне да рускай школы жывапісу, прафесійныя настаўнікі-мастакі, паспяховае заканчэнне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута і доўгая дарога пошуку сваёй тэмы.

Кожнаму мастаку ўласцівы пэўны ідэал, які становіцца для яго не проста мараю, а компасам, пуцяводнай зоркай. А. Кузьміч у работах не толькі імкнуўся да ідэалу, але і ўнутрана хацеў адпавядаць яму. Па натуры шчыры, дружалюбны, рамантычны і вельмі даверлівы чалавек, творца не раз вінаваціў сябе за залішнюю адкрытасць. Лепшымі лекамі для яго была праца.

А. Кузьміч пісаў пейзажы: серыя карцін «Маё Палессе», храмы, якія сталі культурнай спадчынай Беларусі, напрыклад «Полацкая Сафія», вуліцы Турава, Віцебска і іншых беларускіх гарадоў. Перш чым прыступіць да напісання гістарычных аб'ектаў, Аляксей Васільевіч дасканала вывучаў іх архітэктуру. Усю інфармацыю майстар браў з асабістай хатняй бібліятэкі. Кніга для яго была і адпачынкам, і крыніцай энергіі.

А з якім натхненнем і апантанасцю працаваў мастак над сваімі мадоннамі! «Вельмі адказна пісаць жанчыну: трэба паказаць не толькі яе жаноцкасць, але і душу, перажыванні, ахвярнасць, слёзы радасці ці гаротнасці. Мяне выхоўвалі шэсць жанчын, навучылі цаніць працу, хлеб і жыццё — я нясу ў сабе адказнасць перад імі», — распавядаў Аляксей Васільевіч.



*«Хрыстос». 2006 г.*



*«Ева». 2005 г.*



*«Летні дождж».1989 г.*

Памятаю, як на выстаўцы ў сталічным Палацы мастацтваў адна жанчына падзялілася са мною назіраннямі, а пасля ветліва спыталася ў самога майстра: «А чаму, Аляксей Васільевіч, дзеці на некаторых палотнах непрыгожыя і недамаляваныя?» Любога мастака такая адкрытая крытыка пакрыўдзіла б, толькі не Аляксея Кузьміча, выхаванага ў павазе да жанчыны, цярплівасці і ўменні весці дыялог. «Своеасаблівая форма адлюстравання немаўлят (невыразнасць, недамаляванасць) — сведчанне таго, што мы не можам быць упэўненымі ў дасканаласці нашага грамадства, — пачаў дзяліцца філасофскімі поглядамі на жыццё творца. — Якім будзе лёс будучых пакаленняў? Вы можаце адказаць на гэта пытанне? Якімі стануць нашы дзеці? Вы, пэўна, звярнулі ўвагу на лікі мадонн, якія тояць у сабе столькі змешаных пачуццяў да сваіх немаўлят: пяшчоту, замілаванне, загадкавую ўсмешку, трывогу, занепакоенасць, слёзы. Кожная маці любіць сваё дзіця, але ці будзе яно ўдзячнае ёй, годнае яе любові? — цяжка ўздыхнуўшы, мастак дадаў: жыццё ўсё дамалюе...»

Ніколі не забуду і першы візіт у майстэрню А. Кузьміча. Уразіла чысціня, акуратна складзеныя фарбы і пэндзлі ля мальберта, а галоўнае — шмат светланосных мадонн. Аляксей Васільевіч з натхненнем распавядаў пра карціны, гісторыю іх напісання. Мяне здзівілі і працоўны запал мастака (у канцы 1990-х гадоў было напісана каля 800 палотнаў), і захапленне любімай тэмай. А яшчэ ўвагу прыцягнула карціна «Чысціня», якая стаяла на падлозе побач з іншымі работамі. На палатне — сучасная мадонна, прыгожая ў сваёй адкрытасці, чысціні позірку, рамантычнай узнёсласці, адлюстравана ў атачэнні равесніц, безгустоўна намаляваных, бездухоўных. Па прызнанні творцы, ён ніколі не даваў жачынам, якім патрэбны толькі раскоша і задавальненні, і назваў іх «яркімі прадстаўніцамі страўнікава-палавой цывілізацыі, не здольнымі быць паўнацэннымі матулямі».

Галоўнае на карцінах А. Кузьміча — святло, якое разліваецца наўкола, напаўняе прастору сонечнай цеплынёй, зачараваннем. Немагчыма адвесці вачэй ад карцін «Летні дождж», «Натхненне», «Мінская Мадонна», «Даная», «Маё залатое дзяцінства», «Плач Ефрасінні Полацкай», «Бялявая Венера», «Тры Мадонны». Яны ўсе розныя, але яднаюць іх зямныя шляхі да святла і чысціні. Самай светланоснай зямной мадоннай для Аляксея Васільевіча была яго жонка, сяброўка і дарадчыца Інэса Іосіфаўна. Гэта яе, адзіную красуню і натхняльніцу на творчыя пошукі, адлюстраваў мастак на палотнах. Светлае вытанчанае аблічча, залатыя валасы і загадкавую ўсмешку Інэсы лёгка пазнаць на карцінах «Мая Мадонна», «Сям'я», «Мацярынства», «Маё натхненне», «Ціхая радасць» і інш. Майстар заўсёды з гонарам і ўдзячнасцю падкрэсліваў, што любімая тэма — вобраз мадонны — да яго прыйшла разам з любімай жанчынай.

Дарэчы, ідэя адраджэння славянскай духоўнасці, якую мастак горача адстойваў на розных прадстаўнічых і творчых сустрэчах, скончылася для творцы пераломам рэбраў (яго прыцемкам прыхапілі каля майстэрні і па-сучаснаму «растлумачылі», што ёсць не толькі славянскія мадонны). Але Аляксей Васільевіч з юнацкай упартасцю працягваў абраную ідэю, паглыбляючыся ў тэму пакутаў, якія даводзіцца выносіць жанчынам: «Жонкі-Міраносіцы», «Русь, якая тоне» (прысвечана ўсім, хто загінуў на падводнай лодцы «Курск»), «Беларусь» (беларуская мадонна аплаквае загінулых падчас Вялікай Айчыннай вайны), «Сербскія Мадонны» і інш. Перад працай у майстэрні ён заходзіў у Пятра-Паўлаўскі сабор за благаслаўленнем. З любоўю напісаны майстрам і партрэты беларускіх акцёраў, кінарэжысёраў, пісьменнікаў, журналістаў: Стэфаніі Станюты, Галіны Макаравай, Мікалая Яроменкі (старэйшага), Віктара Турава, Міхаіла Пташука, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Ліпскага, Пятра Сабіны ды інш.

Аляксей Кузьміч — адзін з беларускіх мастакоў, які рашыўся намаляваць Бога: «Ісус Хрыстос у цярновым вянку», «Ісус Хрыстос». Хтосьці з калег Аляксея Васільевіча назваў твар Ісуса саладжавым, іншы — ялейным. У беларускім мастацтве, паводле традыцыйных поглядаў, Хрыста адлюстроўваюць пакутнікам у цярновым вянку. Магчыма, нетрадыцыйнае адлюстраванне А. Кузьмічом Ісуса (усмешка і светлы лік) дапаможа кожнаму зразумець, што ўсё самае значнае, яркае, таленавітае на зямлі створана з радасцю і любоўю.

Аляксей Васільевіч збіраўся напісаць партрэт Бога-Айца, якога ўпершыню ўбачыў у сне і які не даваў спакою апошні год жыцця. Пры гэтым мастак ціхім і насцярожаным галасам казаў: «Баюся, як напішу Бога, дык памру...» Але, відаць, на нябёсах адносна ўсіх свае планы...

**Тамара ЛЮКОВІЧ**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Нясвіжская парыжанка

**Сёлета, 19 лютага, споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння Марыі Дароты дэ Кастэлян, французскай арыстакраткі, якая пакінула адметны след у гісторыі Беларусі. З іменем гэтай парыжанкі слушна звязваюць аднаўленне Нясвіжскага палаца пасля некалькіх дзесяцігоддзяў занядбання.**

Марыя Дарота паходзіла з дому баронаў дэ Кастэлян, вядомага яшчэ з ХІ ст. Прадстаўнікі гэтай сям'і і сёння ў ліку французскай і іспанскай арыстакратыі. Дзед Марыі па бацькоўскай лініі быў маршалам Францыі, а бабуля (менавіта яна ў большай ступені займалася выхаваннем унучкі) даводзілася сваячкай вядомаму дыпламату напалеонаўскай эпохі Талейрану. З малых гадоў Марыя разам са сваякамі шмат вандравала, наведала Швейцарыю, Корсіку, Італію, яшчэ падлеткам была прадстаўлена Папу Рымскаму Пію ІХ. Яе лічылі адной з самых прыгожых дзяўчын Еўропы.

Прэтэндэнтаў на руку і сэрца маркізы было дастаткова, і бабуля ўважліва падыходзіла да выбару кандыдатуры для ўнучкі. Вясной 1856 г. 15-гадовую Марыю Дароту пазнаёмілі з 22-гадовым Антоніем Вільгельмам Радзівілам, на той час малодшым афіцэрам артылерыі прускай арміі. Невыскокі ваенны чын ні ў якім разе не мог збянтэжыць. Уся Еўропа ведала, хто такія Радзівілы, лічылася за гонар увайсці ў гэтую сям'ю.

У тым жа годзе паміж Радзівіламі і дэ Кастэлян была дасягнута дамоўленасць аб шлюбе. Праўда, афіцыйную цырымонію давялося адкласці на некалькі гадоў з-за юнага ўзросту нарачонай. Толькі 3 кастрычніка 1857 г. Антоній і Марыя пабраліся шлюбам, і маркіза дэ Кастэлян стала княгіняй Радзівіл. Антоній Вільгельм, як і яго бацька і дзед, займаў значнае месца пры двары нямецкага імператара. Марыю таксама прадставілі Вільгельму І. Пачаўся берлінскі перыяд жыцця. Муж рабіў імклівую ваенную кар'еру: удзельнічаў у пруска-аўстрыйскай і франка-прускай войнах, даслужыўся да генерала, быў ад'ютантам трох нямецкіх імператараў, кавалерам вышэйшых узнагарод Германіі, Францыі і Расіі.

Жонка вяла жыццё свецкай дамы, была гаспадыняй салона. Становішча абавязвала ведаць гісторыю новай сям'і, і Марыя Дарота пачала знаёмства з мінуўшчынай польска-беларускага краю. Цікавасць да гэтых земляў яшчэ больш узрасла падчас паўстання 1863 г., калі ў Еўропе шмат гаварылі пра лёс Польшчы і палякаў.

Праз восем гадоў пасля вяселля княгіня ўпершыню наведала сваю рэзідэнцыю — старажытны Нясвіж, у якім Радзівілы не жылі вось ужо паўстагоддзя. Першае ўражанне ад палаца было непрыемным: «Наша карэта, — пісала яна ва ўспамінах, — праехала праз доўгую грэблю, якая аддзяляе маленькі гарадок ад замка, колішні пад'ёмны мост, нарэшце праехалі праз вежу і спыніліся на вялікім двары сядзібы. Усё гэта мела нейкую прыгожую велічнасць, нягледзячы на зруйнаванне будынка і яго поўнае занядбанне, сярод якога старажытныя муры выглядалі ахвярай часу. Замак з'яўляўся цалкам непрыдатным да жыцця. Дахі былі паўсюдна больш ці менш прадзіраўленыя, ніводнага вадастоку, вада зацякала ўсюды. Некалькі крокваў абваліліся, іншыя ледзьве трымаліся. Брук у многіх месцах быў пашкоджаны, і ўсё патанала ў брудзе, які цяжка апісаць...».

Замкавыя рвы, засыпаныя зямлёй і закіданыя смеццем, амаль зраўняліся з прылеглымі валамі. У капліцы з разбітым алтаром, дзе захоўваўся абраз Ларэтанскай Божай Маці — славутая ікона, якая была пры Яне ІІІ Сабескім падчас Венскай бітвы 1683 г., знаходзілася сталярная майстэрня. «Залатая зала», якая калісьці ўвасабляла веліч і багацце радзівілаўскага дома, выглядала пустой і пакінутай. На заканчэнне княгіня паведамляе: жонка архіваріса, што жыў у замку, разводзіла трусоў і трымала іх поруч з найкаштоўнейшым зборам старажытных актаў. Няцяжка ўявіць небяспеку такога суседства для дакументаў, што збіраліся на працягу стагоддзяў і мелі неацэннае значэнне для гісторыі.



*Двор Нясвіжскага палаца, пачатак ХХ ст.*

Княжацкая пара не змагла адшукаць у палацы ніводнага пакою, дзе можна было б спыніцца, і некалькі месяцаў жыла ў маёнтку Радзівілімонтыі пад Клецкам. Там княгіня бліжэй пазнаёмілася са сваёй новай радзімай і была ад яе ў захапленні. «Гэты край, — пісала яна, — у культурных адносінах стаяў вышэй за Прусію і набліжаўся да маёй класічнай зямлі, да Францыі». У 1875 г. Антоній Вільгельм стаў адзінаўладным гаспадаром Нясвіжска-Клецкіх уладанняў, неўзабаве княгіня пачала карпатлівую працу па аднаўленні нясвіжскага палаца.

Як сама прызнавалася, яе мэтай стала «захаваць для дзяцей рэзідэнцыю, вартую іх імя і вартую гісторыі іх айчыны». Гэта француженка з большай павагай паставілася да новай радзімы, чым цэлая нямецкая галіна Радзівілаў да зямлі сваіх продкаў. Пры гэтым большасць часу яна праводзіла ў Берліне, Нясвіж наведвала пераважна ў летнія месяцы. Але без яе энергіі, ініцыятывы і прадпрымальнасці работы ў палацы наўрад ці атрымалі б належны імпульс.

Яшчэ на пачатку 1870-х гг. у княжацкай рэзідэнцыі былі адрамантаваны і нанова абкладзены кафляй шматлікія печы. У 1878 г. адрамантавалі капліцу: аднавілі алтар, паклалі падлогу з мармуровай кафлі, паставілі новыя вокны. Некалькі гадоў у замку шчыравалі мясцовыя майстры: Т. Ліпоўскі рабіў мэблю для княжацкіх пакояў, Ю. Райзман выконваў сталярныя работы, П. Багдановіч абіваў крэслы і канапы тканінай, Я. Міpановіч рэстаўраваў карціны замкавай галерэі.

Адмысловы спецыяліст быў запрошаны для рамонту ўсіх замкоў і вырабу да іх ключоў, а таксама званкоў і званочкаў для ўсяго замка. Люстэркі, упрыгожванні, посуд прывозілі з Варшавы. Праз нейкі час у аднаўленым палацы не сорамна было прымаць гасцей самага высокага ўзроўню, што засведчыў візіт прынца Вільгельма Гагенцолерна (пасля — імператара Вільгельма ІІ), які ў лютым 1886 г. паляваў у радзівілаўскіх лясах. Менавіта напрыканцы 1880-х гадоў нясвіжскі палац канчаткова набыў архітэктурнае аблічча, якое захавалася да нашых дзён.

На патрэбы рэзідэнцыі Марыя Дарота ахвяравала не толькі сваю энергію, але і капітал. Прыбыткі ад зямель і лясоў, нягледзячы на іх багацці, з цяжкасцю пакрывалі выдаткі на ўтрыманне вялікай адміністрацыі. Толькі дзякуючы асабістым сродкам Марыі і яе мужа ўдавалася рэгуляваць бюджэт і, вяртаючы палацу былую пышнасць, падтрымліваць яго ў належным стане.



*Марыя Дарота дэ Кастэлян Радзівіл.*

Яшчэ адным клопатам Марыі Дароты і Антонія Вільгельма стала вяртанне ў Нясвіж культурных каштоўнасцей, якія былі раскіданы па ўсёй Еўропе. У прадстаўнікоў нябораўскай лініі Радзівілаў Антоній набыў архіўны збор. У Вітгенштэйнаў — калекцыю зброі. Для яе разбору і ўпарадкавання быў запрошаны дырэктар Дрэздэнскага гістарычнага музея. Сама княгіня набыла для бібліятэкі кнігазборы скасаваных нясвіжскіх кляштараў — бенедыкцінскага і бернардзінскага. Яна нават звярнулася да імператара Мікалая ІІ з просьбай вярнуць калекцыі, вывезеныя рускімі войскамі ў 1812 г., якія захоўваліся ў Эрмітажы. Частку гэтых рэчаў атрымала ў 1905 г.

У Нясвіж былі вернуты жэзл надворнага маршалка, які належаў Міхалу Казіміру Рыбаньку ў 1734 г., харугвы, вышытыя срэбрам, з вензелем Геранімa Фларыяна Радзівіла, калекцыя пячатак, узнагарод, партрэтаў, упрыгожванняў. Разам з тым некаторыя прадметы вярнуць не ўдалося. Марыя дэ Кастэлян нават распачала працу па падрыхтоўцы альбома фамільных скарбаў, але па розных прычынах гэта работа не была завершана.

Вядомы краязнаўца Аляксандр Ельскі, які неаднаразова бываў у Нясвіжы і меў магчымасцьназіраць за пераменамі, пісаў на пачатку ХХ ст.: «Сёння замак налічвае амаль сто апартаментаў, якія знаходзяцца ў выдатным стане, цудоўна абсталяваны і, мусіць, ва ўсім краі ў рэзідэнцыях нашых магнатаў не знойдзецца нічога падобнага. Тут поўна рэчаў, мэблі, мемарыяльных прадметаў, твораў мастацтва. Атачэнне замчышча цалкам адпавядае яго пышнасці. Валы, што густа параслі яшчэ чвэрць стагоддзя назад, замянілі на маляўнічыя кветнікі, а ў паўночна-заходнім баку быў закладзены цудоўны парк шырынёй каля пяці вёрст... Усё гэта створана жонкай князя Антонія... Гэта дзякуючы яе дзейнай, умелай ініцыятыве сучасны Нясвіж выглядае вялікапышна».

Заключныя словы ў значнай ступені датычацца паркаў, якія былі разбіты каля палаца. Саджанцы для іх прывезлі з берлінскага гадавальніка Радзівілаў. Некаторыя аўтары параўноўваюць паркі з вытанчанай аправай для брыльянта, у ролі якога выступае старадаўні палац.

А пачыналася ўсё літаральна на пустым месцы. На тэрыторыі, дзе быў закладзены Стары парк, узвышалася адна таполя, пра што сведчыць усталяваны памятны камень. Гэта таполя расла яшчэ на пачатку нашага стагоддзя, але да сённяшніх дзён не захавалася. А вось камень застаўся. Як і два іншыя — у гонар закладкі паркавай алеі і ў гонар 25-гадовага юбілею дзейнасці княгіні. Апошні быў пастаўлены мужам Антоніем у 1903 г. Але дарэчы будзе сказаць, што, як і ў выпадку з палацам, над паркамі шчыравалі мясцовыя ўраджэнцы. Адным з іх быў Андрэй Пастарэмчак — выхадзец з сялян, які каля трыццаці гадоў выконваў абавязкі галоўнага садоўніка Радзівілаў.

Марыя Дарота не замыкалася выключна на гаспадарчых клопатах. Яе берлінскі салон па-ранейшаму быў месцам сустрэч еўрапейскай арыстакратыі. Тут бывалі палітыкі, дыпламаты, палкаводцы. Сюды па-сяброўску заходзіў Вільгельм І, які нікуды больш не наносіў прыватных візітаў. Па ацэнцы спецыялістаў, салон Марыі Дароты адносіўся да 30 самых уплывовых салонаў, якія існавалі ў Берліне з 1780 да 1914 г. Княгіня падтрымлівала сяброўскія сувязі з вышэйшым светам Санкт-Пецярбурга. Ёй паведамлялі, што адбываецца пры дварах манархаў і міністэрствах замежных спраў. Ліставанне Марыі Радзівіл дае цікавы матэрыял для вывучэння палітычнага жыцця Еўропы канца XIX — пачатку ХХ ст.

Пасля смерці мужа (якога не стала ў снежні 1904 г.) Марыя Дарота занялася ўпарадкаваннем свайго архіва і напісаннем мемуараў, працягвала клапаціцца пра нясвіжскія паркі. Пачатак Першай сусветнай вайны супаў з рэзкім пагаршэннем яе здароўя. 10 ліпеня 1915 г., у распал баявых дзеянняў, княгіня памерла ў Берліне. З усёй шматлікай радні на пахаванні магла прысутнічаць толькі дачка Эльжбета Патоцкая, якая мела аўстрыйскае падданства. Сын Станіслаў ваяваў у складзе рускай арміі, унукі таксама былі падданымі Расійскай імперыі.

Толькі ў 1924 г. цела Марыі Дароты было перавезена ў Нясвіж і пахавана ў крыпце касцёла Божага Цела побач з трунамі мужа і двух сыноў. Парыжанка знайшла апошні прытулак на зямлі, якую палюбіла ўсім сэрцам.

**Андрэй БЛІНЕЦ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Нацыянальнага гісторыка-культурнага**
**музея-запаведніка «Нясвіж»**

# Акадэмікі, наперад!

**Урачыстае адкрыццё XXI курса Міжнароднай паслядыпломнай летняй школы «Нясвіжская акадэмія» адбылося ў Інстытуце культуры Беларусі. Тэма праграмы — «Ахова культурнага ландшафту».**

Асноўная мэта «Нясвіжскай акадэміі», беларуска-польскага культурна-адукацыйнага праекта, які рэалізуецца з 1994 года, — удасканальванне прафесійнай падрыхтоўкі спецыялістаў з Беларусі, Літвы, Украіны і Малдовы ў галіне ландшафтна-паркавай архітэктуры, аховы і рэстаўрацыі паркаў, сядзіб, помнікаў. Арганізатары — Інстытут культуры Беларусі (г. Мінск) і Нацыянальны Інстытут Спадчыны Польшчы (г. Варшава).

Важны аспект дзейнасці школы — арганізацыя майстар-класаў для падрыхтоўкі спецыялістаў, кампетэнтных не толькі ў справе аховы спадчыны, але і здольных стварыць гнуткую стратэгію адаптацыі культурнай спадчыны ў сучасным сацыякультурным асяроддзі. У ліку выкладчыкаў — прафесар кафедры мастацтваў Дзяржаўнага інстытута кіравання сацыяльных тэхналогій Белдзяржуніверсітэта, доктар мастацтвазнаўства Вольга Бажэнава, начальнік аддзела дызайну архітэктурных форм Праектнага філіяла ААТ «Белрэстаўрацыя» Дзмітрый Бубноўскі, прафесар кафедры агульнай біялогіі і батанікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Анатоль Федарук, архітэктар-рэстаўратар, старшыня фонду «Культурная спадчына і сучаснасць» Вадзім Гліннік, намеснікі дырэктара Нацыянальнага Інстытута Спадчыны Польшчы Ежы Шалыгін і Марыюш Чуба ды іншыя.

Падчас адкрыцця новага курса «Нясвіжскай акадэміі» начальнік аддзела ўстаноў адукацыі і работы з творчай моладдзю Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, кандыдат педагагічных навук Алена Гуляева зазначыла: цягам многіх гадоў праект збірае абсалютна ўнікальны склад удзельнікаў, стварае дадатковыя магчымасці для развіцця міжкультурнага дыялогу. Выпрацавана і пэўная адукацыйная мадэль, якая спалучае аўдыторныя заняткі з практычнымі выездамі на такія аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны, як Мірскі замак, Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль, Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, што ўзбагачае сацыякультурны досвед навучэнцаў.

Паводле старшыні Беларускага камітэта ICOMOS і Беларускага фонду культуры Уладзіміра Гілепа, аднаго з пачынальнікаў «Нясвіжскай акадэміі», назва праекта невыпадковая: заснаваны ў Нясвіжы. Адметна, што многія выпускнікі працягваюць працу ў кірунках, выбраных у гэтай летняй школе падчас вучобы. Уладзімір Аляксандравіч дадаў: сёння актыўна ідзе падрыхтоўка да юбілеяў двух вялікіх дзеячаў беларускай і польскай культуры — Станіслава Манюшкі і Адама Міцкевіча.

Распавядаючы пра місію, прыярытэтныя задачы і асноўныя напрамкі дзейнасці Інстытута культуры Беларусі, прарэктар па вучэбнай рабоце гэтай установы, кандыдат філалагічных навук Ірына Лапцёнак заўважыла, што «Нясвіжская акадэмія» — не вузкаскіраваны праект, які засяроджваецца толькі на праблеме культурнага ландшафту, а сістэма супрацоўніцтва, якая сёння павінна максімальна пашырацца дзякуючы таму, што навучэнцы маюць магчымасць рэалізоўваць шэраг праектаў сумесна як з Інстытутам культуры Беларусі, так і з Нацыянальным Інстытутам Спадчыны Польшчы. Прычым яны змогуць не толькі слухаць лекцыі, але і ствараць канкрэтныя праекты, карысныя для дзейнасці ўстановы, у якой працуюць.

«Нясвіжская акадэмія» — равесніца Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры (так падчас стварэння праекта называўся Інстытут культуры Беларусі, які атрымаў сваю сённяшнюю назву ў 2010-м). На шляху развіцця інстытута пашыралася сфера яго прыярытэтаў. Сучасная дзейнасць установы як навукова-практычнага цэнтра скіравана на вырашэнне праблем культурнай палітыкі, адукацыйных задач, распрацоўку дзяржаўных праграм, правядзенне культуралагічных даследаванняў, развіццё міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы культуры. У правядзенні XXI курса «Нясвіжскай акадэміі» плануецца ўдзел больш як дзясятка выкладчыкаў.

Пра структуру і дзейнасць Нацыянальнага Інстытута Спадчыны Польшчы распавяла галоўны спецыяліст установы, каардынатар Міжнароднай паслядыпломнай летняй школы «Нясвіжская акадэмія» з польскага боку Лідзія Клюпш. Нацыянальны Інстытут Спадчыны Польшчы — экспертна-кансультацыйная арганізацыя пры Міністэрстве культуры і нацыянальнай спадчыны Рэспублікі Польшча. Сваю працу інстытут пачаў больш як паўстагоддзя таму, але тады называўся Цэнтрам аховы гісторыка-культурных помнікаў. Ёсць у інстытуце і адпаведныя архівы. Паралельна існаваў Цэнтр аховы гісторыка-культурнага ландшафту, заснаваны ў 1984 годзе. Менавіта гэтая ўстанова і распачала супрацоўніцтва з Беларуссю ў межах «Нясвіжскай акадэміі».

Праграма XXI курса «Нясвіжскай акадэміі» разлічана на 2015 — 2016 гг. і ўключае два этапы. Першы, тэарэтычна-практычны, праходзіць 18 — 31 мая ў Беларусі — у Мінску, другі — стажыроўка і абарона выпускных работ — у наступным годзе ў Польшчы. Слухачы, якія паспяхова скончаць курс навучання ў Міжнароднай паслядыпломнай летняй школы «Нясвіжская акадэмія», атрымаюць міжнародны сертыфікат.

**Яна ЯВІЧ**

# Закаханы ў бард-рок

Творчая сустрэча з паэтам-бардам Васілём Баннавым адбылася ў Брэсцкай Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Гэта адна з імпрэз, якія праводзяць Брэсцкая гарадская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма ў межах мерапрыемстваў «Брэст — культурная сталіца Беларусі 2015», паведаміла загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу гэтай установы Святлана Гарадзецкая.

Госць прадставіў новы паэтычны зборнік «На гребне времени волны». Паэт, філосаф, музыкант — усё гэта пра чалавека, які атрымаў класічную музычную адукацыю, выпрабаваў сябе ў розных прафесіях , але закахаўся ў бард-рок.

«Мне захацелася паўней і шырэй выкарыстоўваць паэтычную мову, гуляць словам, мелодыкай, сэнсам, а ў песні гэта не заўсёды магчыма», — зазначае аўтар, на рахунку якога чатыры зборнікі паэтычных, філасофскіх разважанняў.

У апошнім выданні адчуваецца выразны аўтарскі стыль, асаблівы погляд на падзеі і рэчы. «Не пра вайну, а пра людзей» — творчая пазіцыя паэта, яго стаўленне да жорсткай праўды вайны.

Васіль Баннаў — аўтар больш як 160 песень. Падчас творчых сустрэч брэсцкага паэта заўсёды аншлаг. Прыхільнікаў яго творчасці прыцягвае адкрытасць і шчырасць вершаў і песень ды і самой асобы Васіля.

* * *

Прэзентацыя кніжнай выстаўкі «Брэст — культурная сталіца Беларусі 2015», падрыхтаваная супрацоўнікамі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага, адбылася ў пракуратуры Брэсцкай вобласці.

Экспазіцыя змяшчала каля 200 крыніц і складалася з некалькіх раздзелаў: гісторыя, культура, літаратура, мастацтва і асобы. Асаблівая ўвага была нададзена першай на тэрыторыі Беларусі друкарні і выдадзенай у ёй Брэсцкай Біблії, Брэсцкай царкоўнай уніі, Брэсцкаму міру, Брэсцкай крэпасці...

Сярод шматлікіх кніжных выданняў арганізатары прадставілі кнігірарытэты: «Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana» (1890), «Сборник обязательных постановлений для жителей города Брест-Литовска, составленных Городскою Думою и изданных в период времени с 1883 по 1911 гг.» (1911), Jerzy Sroka «Brześć nad Bugiem. Dzieje miasta i twierdzy» (1997), «Народное (национальное) собрание Западной Белоруссии» (1946), «Уния в документах» (1997) і інш.

Галоўны бібліёграф аддзела краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Ірына Жэлянгоўская зрабіла тэматычны агляд кніжных крыніц, у якіх асвятляліся найбольш важныя культурныя падзеі горада, тэатральныя фестывалі, дзейнасць устаноў адукацыі і культуры, узгадваліся імёны вядомых рэлігійных і культурных дзеячаў, мастакоў, навукоўцаў і пісьменнікаў Берасцейшчыны.

**Бажэна СТРОК**

# Кіеўскі майстар-клас

У вясельных абрадах нашы продкі праграмавалі заможнае і доўгае сямейнае жыццё. Нядаўна ў Кіеве зладзілі беларускае нацыянальнае вяселле. Этнагурт «Гарынь» і прадстаўнікі Клуба традыцыйнага танца «Сіта» з Мінска прыехалі ў сталіцу Украіны на І Міжнародны фестываль традыцыйных культур «ЭтнаСвіт».

Беларусы паказалі зборнае вяселле. Гучалі песні, характэрныя для Брэстчыны, Гродзеншчыны, Віцебшчыны і Цэнтральнай Беларусі. Цудоўнае акапэльнае выкананне, яркія вобразы нявесты, жаніха, гарманіста, створаныя Аляксандрай Духноўскай, Сяргеем Макарэвічам і Аляксеем Крукоўскім, не пакінулі абыякавым нікога.

Высокае выканальніцкае майстэрства прадэманстравалі кіраўнік этнагурта «Гарынь» Анастасія Глушко, Марыя Лук'янава, Яўгенія Сухаверхава, Святлана Чакушка і Святлана Клепікава. Спявалі без апрацоўкі і фанаграмы.

Нашы суайчыннікі правялі і майстар-клас па традыцыйных беларускіх танцах.

**Мікалай БОЙКА**

# Светлы лёс

Пяцьдзясят гадоў таму Рыгор Іванавіч Ермашкевіч, кандыдат гістарычных навук, прафесар кафедры паліталогіі Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва, закончыў гісторыка-геаграфічны факультэт Мінскага педінстытута. Ва ўспамінах ён з удзячнасцю вяртаецца ў мінулае, асветленае імёнамі любімых Настаўнікаў.

Пасля заканчэння Пустынкаўскай школы ў Сенненскім раёне Рыгор Іванавіч паступіў у Віцебскі фізкультурны тэхнікум (пад уплывам настаўніка фізкультуры і цёзкі Рыгора Іванавіча). Аднак павучыцца хлопцу не ўдалося: спачатку войска, дзе быў у складзе зборнай гарнізона па лёгкай атлетыцы, потым з'явілася жаданне змяніць лёс. Рыгор паступае на гісторыка-геаграфічны факультэт Мінскага педінстытута. Такі выбар быў таксама заканамерным: памяць захавала цікавыя і змястоўныя ўрокі настаўніка гісторыі Уладзіміра Мікалаевіча Прыстаўкі. Вучоба ў ВНУ давалася без асаблівых цяжкасцей, яшчэ і лёгкай атлетыкай паспяваў займацца — выступаў за зборную МДПІ.

Уступны экзамен у Мінскі педінстытут па гісторыі СССР Рыгору запомніўся асабліва. Прымаў тагачасны дэкан гісторыка-геаграфічнага факультэта Аляксандр Іванавіч Бабчынскі, якога студэнты з любоўю называлі бацькам. Ён ніколі не пагражаў адлічэннем за няўдала здадзены іспыт, вучыў, як дасягнуць добрых вынікаў, і заўсёды цікавіўся жыццём студэнтаў. Гледзячы на такога выкладчыка, Рыгору таксама хацелася камусьці дапамагаць. У першую чаргу маці, якая адна выхоўвала пяцярых дзяцей: з ІІ курса і да канца вучобы працаваў загадчыкам інстытуцкай фоталабараторыі. Акрамя зарплаты, былі яшчэ ганарары за фотаздымкі ў «Настаўніцкай газеце». Дапамагаў і дзяўчатам-аднакурсніцам — вучыў іх... гатаваць! Інтэрнацкі пакой, дзе разам з Рыгорам жылі яшчэ чацвёра, лічыўся самым узорным па чысціні, за што рэктарат узнагародзіў студэнтаў каштоўным падарункам — радыёлай. Узорнасць захоўвалася і ў хлапечых узаемаадносінах: разам вучыліся, працавалі, дасягалі поспехаў. Таму і сёння Рыгор Ермашкевіч сябруе з колішнімі жыхарамі самага чыстага інтэрнацкага пакоя, сярод якіх доктар філасофскіх навук прафесар Мікола Рабаконь і кандыдат філасофскіх навук Антон Марэцкі.

У студэнцкія гады Рыгор разам з аднакурснікамі пастаянна наведваў сустрэчы з пісьменнікамі, якія ладзіліся ў педінстытуце. Прыходзілі Пятро Глебка, Іван Мележ, Кандрат Крапіва, Пімен Панчанка, Максім Танк, Іван Шамякін, Рыгор Барадулін і інш. Уражваў Максім Танк — чалавечны, беларускі, свой! Ён заклікаў студэнтаў не цурацца роднай мовы. Гэты заклік Рыгор пранёс праз усё жыццё. Як, дарэчы, і памяць пра беларускага мовазнаўца доктара філалагічных навук Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Знаёмства з ім адбылося на адной з творчых вечарын, калі Рыгор, саромеючыся, папрасіў прафесара падпісаць зборнік «Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». Фёдар Міхайлавіч зацікавіўся асобай студэнта, а пазней нават дарыў яму свае кнігі з аўтографам, дасылаў паштоўкі-віншаванні са святамі.

Такія цёплыя адносіны склаліся ў славутага вучонага з Рыгорам Ермашкевічам, які пранікнёна і ўдзячна прымаў беларускае слова. Яно было з ім на ўсіх наступных пуцявінах шчаслівага прафесійнага лёсу. Так, адразу пасля вучобы ў ВНУ Рыгор пяць гадоў працаваў выкладчыкам кафедры геаграфіі Мінскага педінстытута. У 1972 г. закончыў аспірантуру БДУ, паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю і быў накіраваны ў Інстытут народнай гаспадаркі, дзе прайшоў шлях дацэнта кафедры гісторыі Беларусі і дэкана падрыхтоўчага аддзялення. На працягу 1998 — 2008 гг. — загадчык кафедры гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва. У 2009 г. выдаў свой вучэбны дапаможнік з грыфам Міністэрства адукацыі «Экономическая история зарубежных стран». Суаўтар чатырох выданняў «Эканамічнай гісторыі Беларусі» з грыфам Міністэрства адукацыі. У інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва Р. Ермашкевіч працуе і сёння, прычым выкладае толькі па-беларуску. Яшчэ Рыгор Іванавіч вядзе педагагічны дзённік, у якім захоўваюцца імёны любімых Настаўнікаў.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА**

# Ён. Яна. Вайна

**Прэм'ерамі адзначылі 70-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне тэатры Гомельшчыны.**

Спектакль «Лялькі» Мазырскага драматычнага тэатра імя Івана Мележа па аднайменнай п'есе гомельскіх драматургаў Васіля Ткачова і Юрыя Вуты паставіў рэжысёр Багдан Арлоўскі. Тры маладыя жанчыны Вера, Надзея, Любоў у самым пачатку вайны нараджаюць першынцаў і застаюцца на акупаванай немцамі тэрыторыі. Акцёры Мазырскага тэатра дэманструюць шчырае выканне і глыбокае пранікненне ў псіхалогію персанажаў. Чаго вартая сітуацыя, у якой Вера (актрыса Валянціна Рослікава) дзеля выратавання дзіцяці сяброўкі вымушана застацца на ноч у доме ў фашысцкага афіцэра-псеўдаэстэта (акцёр Міхаіл Клімёнка)! Уражвае паслужлівасць паліцая (акцёр Аляксей Спірыдовіч) перад акупацыйнай уладай і яго ж шчырае раскаянне — малітва грэшніка падчас таемнага вяртання на вызваленую радзіму. Аўтар п'есы і пастаноўшчык спектакля Юры Вута падкрэсліў: «Людзі як лялькі ў руках лёсу і Бога — пра гэта мы гаворым са сцэны.



Фота Алега Белавусава

Спектакль «Ён. Яна. Вайна».

Але кожны можа сам зрабіць шмат для сябе і для людзей, што побач!» Удалае спалучэнне тэмы, тэксту, рэжысуры і гульні акцёраў выклікаюць жывую рэакцыю залы: ад звонкай цішыні і слёз спагады да шквалу апладысментаў. Пастаноўка «Лялькі» запрошана на маскоўскі фестываль «Славянскі вянок» у кастрычніку 2015 года.

Гомельскі гарадскі маладзевы тэатр сустрэў 70-годдзе Вялікай Перамогі публіцыстычным спектаклем «СвиДЕТИли?». Гэта інсцэніроўка дырэктара і мастацкага кіраўніка тэатра Юры Вуты паводле знакамітай кнігі «Апошнія сведкі» Святланы Алексіевіч. Запісаныя пісьменніцай успаміны тых, хто сустрэў вайну дзіцем, сталі асновай тэатральнага дзеяння. Удзел у гэтай пастаноўцы бяруць усе тры пакаленні трупы тэатра. Выразныя рэжысёрскія рашэнні, простыя і непатрабавальныя касцюмы, жудасныя ў сваёй шчырасці ўспаміны дзяцей вайны... Гучыць у спектаклі песня «Дзеці вайны» кампазітара О. Юдахінай на вершы І. Рэзніка. Актуальнасць дзеі надаюць і відэаматэрыялы. Пастаноўшчык спектакля склаў відэашэраг не толькі з кадраў дакументалістыкі Вялікай Айчыннай вайны, але і з сучасных лакальных войнаў і канфліктаў.

Дырэктар Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Ірына Пыркова і яго мастацкі кіраўнік Сяргей Лагуценка пастаноўку спектакля да Дня Перамогі даверылі маладому рэжысёру Паўлу Харланчуку-Южакову, які сёння на першых ролях у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Павел абраў п'есу Васіля Быкава «Альпійская балада», паставіўшы яе на беларускай мове. У спектаклі «Ён. Яна. Вайна» бяруць удзел тры маладыя акцёры. Сцэна, якая крушыцца, класічная музыка, магчымасці святлатэхнікі, выразная сцэнаграфія галоўнага мастака Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Андрэя Меранкова — усё гэта працавала на ўвасабленне ідэі. Чорна-белая гама касцюмаў і дэкарацый шматзначна расцвітае чырвонымі пялёсткамі альпійскіх кветак у сцэне кахання ўцекачоў з фашысцкага палону — экстравертнай італьянкі-балбатушкі Джуліі (актрыса Марыя Хадзякова) і інтравертнага маўчуна-беларуса Івана (акцёр Рыгор Жураўлёў). Па-майстэрску паказаны акцёрам Дзмітрыем Байковым і іншасказальны вобраз вайны. Пастаноўшчык Павел Харланчук-Южакоў зазначыў: «Сёння людзі гуляюць у камп'ютарныя войны, віртуальна страляюць... Такое адчуванне, што ім хочацца крыві. Гэта страшна і небяспечна!»

Гомельскі дзяржаўны тэатр лялек запрасіў для пастаноўкі спектакля «Адна абсалютна шчаслівая вёска» рэжысёра Ірыну Цыпіну, мастацкага кіраўніка тэатра «Птах» з Харкава. Аднайменная аповесць Барыса Вахціна ўжо мела сцэнічнае ўвасабленне ў Маскве, на класічнай нелялечнай сцэне знакамітай тэатральнай майстэрні Пятра Фаменкі. Але гэта не спалохала рэжысёра-лялечніка, а толькі дадало духу здарова спаборніцтва і канкурэнцыі. І вынік уражвае! Ірына Цыпіна падкрэсліла, што спектакль не пра вайну — проста лісты любоўнага зместу. Пастаноўка зачароўвае і падлеткаў, і дарослую публіку гісторыяй вясковага кахання, ваеннай перапіскай Паліны і Міхеева, няхітрай апавядальнасцю. Бярэ за душу спевамі акапэла. Раскрываюцца новымі гранямі таленты Вольгі Белапухавай, Яўгена Хромава, Лілії Зорынай.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

# Пра самых блізкіх

**Персанальная фотавыстаўка «Spirituale» Ганны Амангельдыевай працуе ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры». Прадстаўлены праект — гісторыя сяброўства чалавека і сабакі.**



Ганна Амангельдыева працуе ў жанрах партрэта, анімалістыкі, рэпартажу і канцэптуальнага фотаздымка. Уласныя работы дэманструе шырокай публіцы ўпершыню. Назву для экспазіцыі абрала невыпадкова: праект прысвечаны духоўным сувязям. «Часам мы настолькі занятыя штодзённымі справамі, што забываем пра нашых блізкіх. Выстаўка — нагода ўспомніць пра самае каштоўнае. А яшчэ — маніфест усім хатнім жывёлам, бо яны — самыя адданыя сябры», — распавяла Ганна.

Фотапраект атрымаўся па-сямейнаму цёплым і шчырым. Героі гісторыі — муж творцы Алег Тарасевіч і яго сабака Купер. Аўтар раскрыла сутнасць узаемаадносін не проста чалавека і жывёлы, а двух сяброў, родпасных душ, якія знайшлі адзін аднаго ў вялікім свеце. Фотаздымкі, выкананыя ў чорна-белай гаме, глыбокія і простыя адначасова. Напоўненыя неверагоднай пяшчотай, яны ствараюць адпаведны настрой і ў гледача.

Экспазіцыя адкрылася пад гукі віяланчэлі і скрыпкі ў выкананні гурта «EvanT». Творцу віншавалі з дэбютам яе родныя і калегі, якія зазначылі: Ганна здольная бачыць хараство ў звыклым, «схапіць» цікавыя і яркія моманты жыцця.



Пракаментавала выстаўку і Марына Бацюкова, намеснік старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання «Фотамастацтва». На яе думку, работы творцы лаканічныя і моцныя.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 28.05.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2223.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1473 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12